

Архімандрыт Гаўрыіл➔3

# Ніва



КАСТУСЬ➔8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3102) Год LX Беласток, 25 кастрычніка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# СЯМЕЙНАЕ ПЯЯННЕ

— У мяне і мой мужык Ян спяваў, і яе мужык Сярожа спявае, — кажа сяброўка з Дуэту сясцёр Масайла Оля, у паненстве Франкоўская, залоўка Любы, у паненстве Хадакоўскай, з Прыбудак. Абедзве спявалі яны пяць гадоў у калектыве «Падляшанкі» з Нарваўскай гміны. Сёння белым галасам запяюць «Хадзіла дзяўчына ў зялёным саду» і «Дзе ж ты чарнавокая». На ІІ конкурсе «Пявучыя сем'і», сарганізаваным Беларускім грамадска-культурным таварыствам у сядзібе ГП БГКТ 18 кастрычніка яны — найстарэйшыя ўдзельніцы.

— Колісьні песне. «Чарнавокую» ў Тыневічах спявалі. Калісь я падмацавала калектыў у Тыневічах, Валя Франкоўская папрасіла. Сёння мелі быць яшчэ Пашкі з Ласінкі, вялікая пявучая радзіна, але ў іх захварэла дзіцятка. А то там браты, то сёстры, то жанкі, то стрыечныя...



Оля і Люба Масайла

— Мая дачка і ўнучкі дзве спяваюць у Белавежы, у «Ручайку», Аня, Паўліна і Ася Шаўкала, — дадае Люба Масайла. — Пявучая ўся сямейка!

— А ў мяне чацвёра дзяцей, — прызнаецца вядомы спявак і музычны аніматар Янка Карповіч. — Сёння выступае са мною мая ўнучка Матыльда, дачка Аліны, а іграе нам на гітары мой сын Грышка. Матыльда — вучаніца пятага класа, выступае ў калектыве «Казка» пры Пачатковай школе ў Гарадку. Мы сёння на хуткую руку падрыхтавалі «Цячэ вада ў ярок» і «Беларусачку». Раней мы ўдвое прымалі ўдзел у Саколцы ў аглядзе музыкуючых сем'яў. Спявалі па-беларуску. А тут, у Таварыстве, мы першы раз у такім складзе. Раней у нас у сям'і музычную традыцыю падтрымлівала цёця — каб весялей правесці час, заўсёды спявалі. Я ёй падыгрываў. За сталом радзінамі праводзім час весялей, і традыцыю падтрымліваем. Я так і ўнукаў пачаў падвучаць. Спявае і баба Ірэна, значыць, мая жонка, старэйшы сын Раман іграў у рок-гурце «РІМА», сёння Рыгор на бас-гітары нам сыграе, ну, і вядома, мая мама, бабка Насця — яна і спявала, і выступала ў калектыве з Меляшкоў...

— А чыя такая файная сямейка? — пытаюся ў таты трох прыгожа апранутых дзяўчатак з валасамі тыцыянаўскага колеру. Яны сёння і заспяваюць, і станцуюць, па харэаграфіі свайго таты Багдана Астапчука з Грабаўкі, музычнага кіраўніка калектыву «Лайланд». — Юліта, Оля і Аня, вучаніцы школы ў Сабалеве Супрасльскай гміны. Прыехалі на конкурс усе разам, з мамай Альжбетай. Сёстры Астапчук сваім дынамічным выступленнем заваюць сэрцы публікі...

— Беларускае таварыства мае досыць многа музычных прапаноў. Гэтая — конкурс «Пявучыя сем'і» — новая ініцыятыва, пакуль яшчэ ІІ выпуск, — кажа Васіль Сегень, намеснік старшыні ГП БГКТ. — Новае ў ёй не толькі тое, што яна праводзіцца другі раз, але ў які спосаб і хто выконвае нашыя беларускія песні. Яна задумана для таго, каб цэлыя сем'і, многія пакаленні маглі разам праспяваць. Песня — гэта душа народа, яна яднае прадстаўнікоў розных пакаленняў.



Кася Васькоўская, Рэбека Каспэрук, Анна Васькоўская, Дар'я Каспэрук, Марта Васькоўская



Сям'я Місеюкоў і Шэрэмэтаў

Спадзяемся на працяг гэтай імпрэзы і на наступныя гады. Задумана была яна як конкурс, не агляд, з самога пачатку. Калісь конкурс беларускіх абрадаў пераварыўся ў агляд. Набіраем самі вопыту, вучымся. Якая будзе гісторыя мерапрыемства, час пакажа.

— А вас колькі? — пытаюся ў... найвышэйшага ўдзельніка конкурсу, гімназіста ад Кірылы і Мяфодзія Патрыкія Місеюка, спевака з сямейнага калектыву «Говорыла маті — співаті», найбуйнейшага спявацкага гурта ў конкурсе — сям'і Місеюкоў. Патрыкій таксама ўдзельнік ніўскага літаратурнага конкурсу разам з амаль усім класам.

— Выступае ў гурце мая мама Анна, сястра Дамініка, сястра Марына, сястра Анастасія, Куба, цёця Івона.

— Атрымалі мы сёлета запрашэнне, — дадае Анна Місеюк, — у мінулым годзе таксама ў нас добра атрымалася сямейнае спяванне.

Ала Каменская выступіла з мамай Любай Гаўрылюк ды Сцяпанам Копам з яго гармонікам. Шматлікі гурт Гаўрылюкоў (спявала яшчэ і Любіна сястра) быў першым сямейным музычным гуртом на Беласточчыне.

— Конкурс такога тыпу вельмі патрэбны, — лічыць Ала Каменская, якая шмат часу прысвячае працы з моладдзю і дзецьмі. Заспявае, хаця пасля аварыі, у якую трапіла месяц таму, пры кожным дыху адчувае боль, не толькі пры тым, каб выцягнуць нотку сваім салаўіным голасам — слухач бачыць жа лёгкасць спеву, а не артапедычны каўнер і апаясаны — балючы корпус спявачкі і педагога. — Моладзь не заўсёды спяваннем займаецца, мае сваё камп'ютары, іншыя занятні, пасядзелкі з калегамі. А калі мамы ці бабулі спяваюць, яны ўмеюць прыцягнуць да таго малодшых, ці старадаўнімі, ці сучаснымі песнямі, але, дзякуючы супольнаму спяванню, наша песня не прападзе і пяройдзе на наступнае пакаленне. У дзевяностых гадах, калі майму Давіду было восем гадоў, мы разам у трыо праспявалі на тры галасы, а малое дзіця спявала сваім голасам. Мы тады занялі першае месца на фестывалі беларускай песні. Давід далей спявае, але крыху іншую музыку, бо кончыў у гэтым годзе оперны факультэт. Сёння я выступаю толькі з мамай, а з-за аварыі не магла падрыхтаваць груп з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы, якія маглі б выступіць у сямейных групах. Але трэба было мне выступіць тут з мамай (і Сцяпанам) як пачынальніцы традыцыі сямейных спеваў на Беласточчыне.



Сям'я Пятроўскіх і Садоўскіх

Першыя месцы ў конкурсе занялі: дуэт Ала Каменская і Люба Гаўрылюк з Козлікаў, дуэт Анна Пятроўская і Юстына Садоўская з Беластока, сям'я Каспэрукаў і Васькоўскіх з Беластока і сямейны калектыў "Говорыла маті — співаті" з Беластока, другія — сям'я Карповічаў з Гарадка, сямейнае трыо «Мама і сыночкі» (Івона, Чарак і Адрыян Данілюкі) з Міхалова, сёстры Астапчук з Грабаўкі, трэцяе — сёстры Масайла з Прыбудак, кватрэт Каліса Пятроўская, Магдаліна Якімюк, Анна Пятроўская і Юстына Садоўская з Беластока, акрамя таго Каліса і Дар'я Пятроўскія з Беластока,

Мерапрыемства адбылося пры падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі РП і Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Вечныя сімвалы

„Выбары закончыліся!" — гэтая фраза ў Беларусі гучыць нашмат аптымістычней, чым, прыкладам, такія фразы як „выбары пачаліся", „у нас ёсць выбары" ці „выбары пакажуць"... З усяго, што звязанае з выбарамі, толькі фраза „выбары закончыліся" для ўсяго без выключэння насельніцтва Сінявокай выклікае палёгку. Ну, нарэшце закончыліся.

Вынік нікога не цікавіць, бо ён вядомы зараней. Нават назіральнікі ад праўладных структур адразу пасля завяршэння падліку галасоў рванулі з выбарчых участкаў дахаты і не пацікавіліся колькі там за каго будзе намалявана ў выніковым пратаколе. Хоць, каб гэта даведацца, варта было затрымацца ўсяго на некалькі хвілін. Але дзеля чаго? І так усё зразумела. Галоўнае, што ўсё ўжо скончылася.

А з якой палёгкай уздыхнулі сябры камісій. Ім больш не трэба хаваць вачэй ад незалежных назіральнікаў і адзін перад другім. Не трэба больш шаптацца і закрываць сваімі плячамі ад непатрэбных вачэй бюлетэні на стале. Усё, канец! Заўтра на працу, як звычайна. І ні слова пра выбары. Ні на працы, ні ў хаце, ні на вуліцы, нідзе... Чаму? Што за дурное пытанне? Таму што ўсім усё зразумела...

Каму хочацца пра гэта больш гаварыць? Толькі людзям з павышаным пачуццём гумару. Сустрэў я выпадкова на вуліцы двух такіх. Беларусы сталага веку, мудрыя, вясёлыя. Пра такіх кажуць, што яны — людзі яшчэ старой фармацыі. Раней, нібыта, у нашай нацыі было такіх багата, ну а зараз такія — вялікая рэдкасць.

— Як думаеш, — кажа адзін другому з усмешкай вартай увагі і павагі, — ці новы прэзідэнт будзе лепшы за старога, ці не?

— Гэты напэўна будзе лепшы за таго, што быў цяпер, — адказвае другі, з усяе моцы стараючыся захаваць дзеля смеху сур'ёзны выраз твару. — Бо той надта ж шмат абяцаў. А гэты дык і не абяцаў нічога. Таму хіба і не падмане.

Зразумела гэта ўсё і ўсім без выключэння. Але чаму тады дзяржаўнае тэлебачанне, дзяржаўная прэса і дзяржаўныя ідэолагі не змаўкаюць ні на хвілінку? Ну выйгралі і ўсё тут. Але ж не. Яны ва ўнісон славяць новую элегантную перамогу. Распавядаюць пра ўсенародную падтрымку, якая нібыта і з'яўляецца асноўным паказнікам даверу ўнутранаму і знешняму курсу новага старога кіраўніцтва, а таксама пра поўны давер і ўсеагульную любоў. Хто ў гэта верыць? Каму яны гэта даводзяць?

А нікому! Як некалі казала знакамітая настаўніца літаратуры: „Галоўнае не Шэкспір, а заўвагі да яго". Галоўнае не як і што было, а як сказалі. І ніхто ўжо ад гэтага народу даўно не дамагаецца таго, чаго дамагаўся сябра дзяцінства Астапа Бендара, Коля Остэнбакен, ад сяброўкі ягонага ж дзяцінства польскай прыгажуні Інгі Заёнц — кахання. Ды нікому яно непатрэбнае, тое ўсенароднае каханне. Галоўнае, каб слухалі і маўчалі. Галоўнае не каб верылі, а каб прыкідваліся, што вераць.

І хай сабе будзе ўсё ўсім зразумела. Ніхто не супраць. Так нават лепш, калі ўсе ведаюць як там насамрэч, але ніхто не спрачаецца. Вось гэта па-сапраўднаму крута.

Менавіта таму і выклікае шалёную паніку ў праўладных колах тое, калі дзесьці адбываецца не так. Вось узялі чатыры курсанты і сфатаграфаваліся з Пагоняй. І гэта адразу пасля такой упэўненай перамогі на выбарах і знешняга ды ўнутранага курсу! Дзе больш за 80 адсоткаў нібыта падтрымліваюць іншыя сімвалы! А яны з Пагоняй!

Ім там і на занятках, і па тэлебачанні пра ўсенародную любоў і падтрымку распавядалі, а яны з Пагоняй! Ну маглі ж як большасць, насіць тую Пагоню хоць на вопратцы, хоць у сэрцы, але рабіць выгляд, што нічога пра яе не чулі. І пайшла б кар'ера, і сталі б афіцэрамі, а можа і да старшыні выбарчай камісіі некалі дараслі б... Пагоня аказалася важнейшай.

А адкуль яны пра яе даведаліся? Яе ж не паказваюць па тэлебачанні. Наадварот, яе замоўчваюць і хаваюць. Ды адусюль даведаліся! Ад бацькоў, ад выкладчыкаў, ад сяброў, ад знаёмых і незнаёмых... Ад тых, хто робіць выгляд, што пагаджаецца з усім, але цішком распавядае пра Пагоню тым, хто пагаджацца не будзе. Тым, хто адчувае, што светам кіруюць сімвалы. І што розныя з іх маюць розны час. І толькі праўдзівыя сімвалы вечныя.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Зямля запаветная



Яшчэ да нядзелі, звянчаючай пачатыя ў аўторак прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, беларуска Святлана Алексіевіч, якую ў чацвер абвясцілі лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі па літаратуры, у сераду катэгарычна абвясціла, што яна не мае намеру галасаваць, «таму што і так вядома, хто пераможа». Яе словы збыліся дакладна. Выбары выйграў вядома хто і з ужо даўно вядомым вынікам — больш за 80 працэнтаў галасоў, што ўжо даўно прадказаў прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Беларусі і заадно дзеючы прэзідэнт Беларусі з прозвішчам, якое ад дваццаці гадоў паўтараецца на кожных выбарах прэзідэнта РБ — Лукашэнка.

Беларусы яшчэ раз чарговы выбар спадара Лукашэнкі вырашылі, прытым на наступныя пяць гадоў. Тады мы ўбачым, што і як, але ўжо загадзя вядома тое, што можа быць вядомым. На самой справе, аж галаве ад гэтага балюча! Выпадкі падзей ідуць сваім ходам. У нядзелю ўвечары па вуліцах Мінска прайшлі лукашэнкаўскія апазіцыянеры, якія пратэставалі супраць фальшавання выбараў. Іх адвагі нельга недаацэньваць, хаця з самага пачатку было вядома, што кандыдуючы ў прэзідэнты прэзідэнт не жадае ніякіх скандалаў, па меншай меры, пакуль не будуць афіцыйна абвешчаны вынікі выбараў. Дарэчы, шэсце пачалося на Кастрычніцкай плошчы, і скончылася на плошчы Незалежнасці. Невядома, ці сімволіка гэтай трасы была запланавана, і ў якой ступені яна выпадковая. Вядома, не запланавана была колькасць удзельнікаў шэсця — некалькі соцень людзей — таму што некаторыя людзі спантанна далучаліся да яго з патрэбы сэрца, у той час як іншыя ў цывільным былі ў яго замешаныя ў службовым парадку. Так што тое, што не дайшло да ніякай тузаніны, таксама з'яўляецца невыпадковым. Шэсце, аднак, мела свае наступствы. Яшчэ не былі зачыненыя ўчасткі, а ўжо лідары беларускай апазіцыі слушна заклікалі міжнародную супольнасць не прызнаваць вынікаў выбараў. На жаль, міжнародная супольнасць у любым выпадку, хоць нясълушна, гэтыя вынікі прыме. І нават калі не, то неафіцыйна і дыпламатычна слушна, таму што Беларусь — вырашальны фактар у адносінах паміж Захадам і Усходам. Калі спадар Лукашэнка, які падпарадкаваў сабе ўсе сілавыя ведамствы дзяржавы, сродкі масавай інфармацыі і апарат бюракратыі, не пажадае адмовіцца ад улады добраахвотна, ён не адмовіцца ад яе нават пад пагрозай грамадзянскай вайны і парушэння далікатнай стабільнасці ў гэтай частцы Еўропы. Краіны ЕС у цяперашні час не могуць сабе гэта дазволіць. Менавіта таму ўжо рыхтуюцца дзеля палітычнага ўмацавання Беларусі адмяніць ускладзеныя на яе раней санкцыі, тым больш што Расія таксама ахвотна рыхтуецца пабудаваць на тэрыторыі Беларусі экстэрытарыяльны аэрапорт, які настолькі ўмацуе расійскі стратэгічны патэнцыял, наколькі аслабіць суверэнітэт Беларусі. Палітычны баланс на восі Усход — Захад вельмі складаны, але прадказальны. Еўрасаюз можа толькі нацкуе на Лукашэнку незалежныя сродкі масавай інфармацыі, якія хвіліну пакрычаць аб фальсіфікацыі выбараў і аб прыгнечаных яго палітычных праціўніках, але і пацісху падштурхне ўласны капітал для рэанімацыі падаючай эканомікі гэтай краіны. Капітал, як ведаем, заўсёды кіруецца прагматыкай, а палітыкай падпіраецца толькі дзеля сваіх інтарэсаў. Абсалютна свядомы гэтага прэзідэнт Лукашэнка вельмі прыхільны для замежнага капіталу. Ужо некалькі гадоў таму Беларусь у рэйтынгу Doing Business у катэгорыі заснавання фірмы ў галіне бізнесавых і адміністрацыйных рэгуляцый заняла 5-е месца. Для прыкладу: Польшча апынулася ў гэтым плане на 32 месцы. Па словах аднаго з польскіх прадпрымальнікаў, які ўклаў у Беларусі больш за 100 мільёнаў злотых, а ў верасні адкрыў трэці завод, для бізнесу ў літаральным сэнсе гэта зямля запаветная. А яе заступнікам — што выразна прызнае — з'яўляецца прэзідэнт Лукашэнка. Падобныя меркаванні выказваюць не толькі польскія прадпрымальнікі. І не толькі прадпрымальнікі. Таксама некаторыя палітыкі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Перад выбарамі

Трыста тры кандыдаты, з сярэднім узростам 40 гадоў, у тым ліку сто дваццаць жанчын, балатуюцца на парламенцкіх выбарах 25 кастрычніка за чатырнаццаць мандатаў з Падляшскага ваяводства (у краіне 7904 кандыдаты). Дзяржаўная выбарчая камісія зарэгістравала тут дванаццаць камітэтаў. У маштабе краіны за сенатарскае крэсла, у сваю чаргу, змагаецца 425 прэтэндэнтаў. На Падляшшы за тры сенатарскія мандаты спаборнічаюць два кандыдаты ў паўднёвай акрузе і па шэсць у дзвюх іншых. Па дадзеных некаторых апытанняў, перадвыбарчыя шанцы на перавышэнне выбарчага парога маюць ПіС, ГП, ПСЛ, „Лявіца разам", „Кукіз'15" і „Сучасная" Рышарда Пэтру. Усе апытанні на момант напісання гэтага тэксту паказвалі на рашучую перамогу Права і справядлівасці.

Ёсць шмат прыкмет таго, што на Падляшшы якраз ПіС збярэ найбольш парламенцкіх месцаў. Па некаторых ацэнках — дзевяць. На гэтым сеймавым спіску няма кандыдатаў, якія адкрыта прызнаюцца да беларускіх, праваслаўных каранёў. Першыя пяць кандыдатаў і восьмы гэта дзейсныя дэпутаты гэтай групоўкі, апрача Яцка Жалька з „Польшчы разам — Аб'яднанай правіцы", выключанага раней з Платформы. Платформа, пасля адмовы змяшчэння на сваім спіску Аляксандра Сасны, як гэта было на папярэдніх выбарах з падтрымкай кааліцыйнага Форуму меншасцей Падляшша (я ўжо пісаў пра гэта тут шырока), на пятае месца паставіла лідара Форуму, навукоўца Адама Мусюка, які атрымаў падтрымку праваслаўнага архіепіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі Іакава, што можна было прыкмеціць у яго кампаніі, калі яго выбарчыя банеры знаходзіліся нават ля некаторых царкоўных варот. У Аляксандра Сасны быў выбар: альбо балатавацца са спіска ПСЛ, або „Лявіцы разам". Ён абраў другі варыянт. Такім чынам, на спіску сялянскай партыі ў ліку кандыдатаў, асацыяваных з беларускім, праваслаўным асяроддзем апынуліся селянін з Пераходаў, ваяводскі радны Мікалай Яноўскі (шостая пазіцыя) і закрываючы беластоцкі юрыст-канстытуцыяналіст, былы член клуба СЛД, беспартыйны Яраслаў Матвяюк. Лідар гэтага спіска падляшскі маршалак Мечыслаў Башко з Сакольшчыны, з ахвотай прызнаецца да тутэйшасці, валодае сакольскім дыялектам беларушчыны, але адназначна сваёй беларускасці не падкрэслівае. Ёсць шмат прыкмет таго, што ён мае шанц атрымаць мандат. Вяртаючыся да спіска ГП: яго адкрывае лідар партыі на Падляшшы, цяперашні дэпутат Роберт Тышкевіч, а закрывае прадпрымальнік з Кнышына, сын Уладзімежа Цімашэвіча — Тамаш.

Спісак „Лявіцы разам" (СЛД, „Твой рух", ППС, УП, „Зялёныя") багаты ў прадстаўнікоў беларускага і праваслаўнага асяроддзя. Апрача былога віцэ-прэзідэнта Беластока, дарадчыка па нацыянальных і рэлігійных меншасцях прэзідэнта Браніслава Камароўскага, беспартыйнага Аляксандра Сасны (трэцяя пазіцыя), рашылі балатавацца з яго: IT-спецыяліст, былы ваяводскі радны, член Саюза дэмакратычных левых сіл Міраслаў Чыквін (шостая пазіцыя), будаўнічы інспектар, былы беластоцкі радны беспартыйны Мікалай Мірановіч (адзінаццатая пазіцыя) і студэнт, звязаны з маладзевымі царкоўнымі арганізацыямі, член СЛД Аркадзь Вашкевіч з Бельска-Падляшскага (пятая пазіцыя). Гэты спісак адкрывае лідар Саюза на Падляшшы Кшыштаф Біль-Ярузельскі.

У спіску Партыі „Разам", альтэрнатыўнай на левым баку палітычнай сцэны, апынуліся два маладыя кандыдаты, што ахвотна прызнаюцца да сваёй беларускасці: адкрываючы гэты спісак настаўнік з Відава Севярын Пракапюк і беластоцкі журналіст Міхал Іванюк. У эфіры Радыё Рацыя сказалі: «Мы не хочам Польшчы Мілера і Квасьнеўскага, ані Польшчы Туска, ані братоў Качынскіх».

На спіску Паўла Кукіза з нумарам дзявятым знойдзем 22-гадовага студэнта Эміля Яканчука з Бельска-Падляшскага, які — як яго прадставіў лідар гэтага спіска Адам Андрушкевіч з „Усяпольскай моладзі" — з'яўляецца прадстаўніком праваслаўнай меншасці.

На выбарах у Сенат з паўднёвай, так званай меншаснай акругі, якая ахоплівае Бельскі, Гайнаўскі, Сямятыцкі і Высока-Мазавецкі паветы, бітва разыграецца паміж шматгадовым дэпутатам Яўгенам Чыквіным, які балатуецца не як раней у Сейм ад Саюза дэмакратычных левых сіл, але пад сцягам свайго камітэта пры невылучэнні тут кандыдатаў ад СЛД, ГП і ПСЛ ды пры падтрымцы Царквы, і эканамістам, старшынёю Малочнага кааператыва ў Бельску-Падляшскім Тадэвушам Раманчуком — які балатуецца ад ПіС, членам гэтай партыі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Архімандрыт Гаўрыіл у Грабаўцы

**Архімандрыт Гаўрыіл, апякун скіта свсв. Антонія і Феадосія Кіева-Пячэрскіх у Адрынках, былы настаяцель Мужчынскага манастыра Благавешчання Прасвятой Багародзіцы ў Супраслі апошнім часам наведвае вёскі на Гайнаўшчыне і спатыкаецца з жыхарамі. Расказвае пра скіт на паўвостраве Кудак, у якім узведзены невялікая царкоўка і жыллёвая забудова, гаворыць пра лячэнне зёлкамі і адказвае на пытанні. Чарговую сустрэчу з архімандрытам Гаўрыілам арганізаваў Фонд «Яны — гэта мы» з Гайнаўкі ў супрацоўніцтве з Гміннай публічнай бібліятэкай у Дубічах-Царкоўных 8 кастрычніка ў прыгожа адрамантаванай вясковай святліцы ў Грабаўцы. Прыйшлі жыхары сяла і людзі з суседніх вёсак. Частка сабраных ездзіла ўжо да айца Гаўрыіла ў скіт па духоўныя парады і дапамогу ў хваробах.**





Сабраных прывітала старшыня Фонду «Яны — гэта мы» Наталля Герасімюк і запрапанавала размову з архімандрытам Гаўрыілам.

— Айцец Гаўрыіл спатыкаўся ўжо з жыхарамі Навасадаў, Хітрай, Махнатага і Старога Беразова. Там сабраныя глядзелі фільм Юрыя Каліны «Архімандрыт» пра айца Гаўрыіла, а пасля была размова з вернікамі. Тут я рашыла не дэманстраваць фільма, толькі прапаную даўжэйшую размову з айцом Гаўрыілам. Пытайцеся, што вас цікавіць, — сказала Наталля Герасімюк.

Архімандрыта Гаўрыіла, гасцей і сваіх прыхаджан прывітаў таксама протаіерэй Славамір Аўксецюк, настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Дубічах-Царкоўных, да якога належаць вернікі з Грабаўца. Затым голас узяў айцец Гаўрыіл і стаў расказваць пра сваё манаскае жыццё.

— Калі Саборам епіскапаў я быў выбраны епіскапам горліцкім, сказаў, што покі я не гатовы выконваць епіскапскія абавязкі. Тады стаў я на паўвостраве каля Адрынок, з дапамогай праваслаўных вернікаў, будаваць самотню. Раней гэтае месца было выбранае брацтвам Супрасльскага манастыра на месца адпачынку. Цяпер прыязджаюць у скіт людзі па дапамогу ў хваробах і просяць даць параду, што рабіць у складаных справах. На паўвостраў прыязджаюць таксама турысты. У летнім сезоне бывала, што з пятніцы да нядзелі праз скіт праходзіла нават каля тысячы чалавек. Паломнікі затрымліваюцца даўжэй, бо хочуць пабываць на службе, паразмаўляць на духоўныя тэмы, паразважаць у спакоі аб пачутым. Спаткацца са мной прыязджаюць маладыя асобы, прыгнечаныя псіхічна акружаючым нас светам. Я даю ім парады як выйсці з духова-псіхічнага крызісу. Калі людзі будуць трымацца маіх парад, маюць магчымасць пазбавіцца хвароб, бо адны псіхатропы ім не дапамогуць. Багаслужбы ў скіце адбываюцца падчас святкаванняў у гонар свсв. Антонія і Феадосія Кіева-Пячэрскіх, Пакровы Божай Маці, Вялікадня, Раждаства Хрыстовага і іншых вялікіх свят; па звычайных суботах пачынаюцца ў 9 гадзін раніцы, а па нядзелях у 10 гадзін. Паколькі я жыву ў самотні, у іншыя дні вычытваю келейнае правіла. Індывідуальна моляцца асобы, што прыязджаюць пажыць са мной. Зараз па серадах хворыя прыязджаюць не ў Крывец, а ў скіт. Прымаю іх з дзевяці гадзін па шаснаццатую гадзіну, а ў сямнаццаць гадзін чытаецца акафіст перад іконай Божай Маці «Лекаркі». У іншыя дні не заўсёды ёсць час сустрэцца з паломнікамі, — сказаў архімандрыт Гаўрыіл і стаў расказваць пра мінулае паўвострава Кудак.

У 1518 годзе князь Іван Міхалавіч Вішнявецкі, перапраўляючыся праз раку Нарву па дарозе ў Вільню, пабачыў святло ад іконы святога Антонія Пячэрскага і вырашыў збудаваць паблізу гэтага месца часоўню. Мяркуецца, што гэта здарылася непадалёк ад гарадзішча Кудак. Пазней манахі з Супрасльскага манастыра, якія падтрымлівалі кантакты з Кіева-Пячэрскім манастыром і маліліся да святога Антонія Пячэрскага, заснавалі там Вазнясенскі манастыр. Гісторыю гэтага месца даследаваў і апублікаваў прафесар Антон Мірановіч з Універсітэта ў Беластоку. Паводле яго, да 1916 года на гэтым месцы жыў манах-пустэльнік Трафім Адамавіч Дубко. Зараз на паўвостраве, на намоленым ад XVI стагоддзя месцы, манаскае жыццё падтрымлівае архімандрыт Гаўрыіл (Гіба).

— У самотні жыву я ўжо 8 гадоў і будучыню для яе бачу такую, што прыйдуць сюды кандыдаты ў паслушнікі, стануць паслушнікамі і застануцца тут жыць. Мне 54 гады. Так склалася, што ў скіце было ажно 54 кандыдаты ў паслушнікі і ўсе спалохаліся цішыні, да якой цяпер людзі не прывыклі, і суровых умоў жыцця. Туалета ўнутры жыллёвай часткі скіта няма і нават у вялікі мароз за сваімі патрэбамі трэба выходзіць у знадворны туалет. Прыходзілі да мяне ваўкі, нават у сярэдзіну агароджы залазілі і таму мы прымацавалі да штыкет калючкі. Адзін раз мой сабака нават ўратаваў мяне ад ваўкоў. Кампанію мне састаўляюць два сабакі, з якіх аднаго атрымаў я ад пагранічнікаў. Многа людзей прыходзіць да мяне і прыязджае дапамагаць у розных працах. Калі ў нашым скіце набліжаліся святкаванні ў гонар свсв. Антонія і Феадосія, падрыхтавацца да свята дапамагалі ажно 60-100 людзей удзень, а ў сам дзень святкавання прыбылых паломнікаў абслугоўвала ажно 40 чалавек. За парадкам сачылі таксама мундзірныя службы — паліцыя, пагранічнікі і пажарнікі, — расказваў айцец Гаўрыіл.

Многа асоб працавала таксама пры рамонце драўлянай кладкі. Яе даўжыня — 800 метраў, а адрамантаваных было 300 метраў. Рамонтныя працы будуць працягвацца ў наступным годзе. Архімандрыт Гаўрыіл пачаў ужо рыхтавацца да 500-годдзя з часу пераправы князя Івана Міхалавіча Вішнявецкага праз раку Нарву і ўзвядзення часоўні, што дало пачатак манаскаму жыццю на паўвостраве.

— Тэмпература ў пустэльні, недалёка ад вады, падчас летняй спёкі прыблізна на 10 градусаў вышэйшая, чым у суседніх Адрынках і Рыбаках. Гэтым летам тэмпература даходзіла да 50-52 градусаў. Зімой на паўвостраве тэмпература прыблізна на 10 градусаў ніжэйшая, чым у суседніх вёсках. У скіце было нават 39 градусаў марозу. Аднак удаецца пераадолець складанасці. З Божай дапамогай збудавалі мы царкоўку, жыллёвыя будынкі, абгарадзілі скіт і збудавалі доўгую кладку праз балота, якая зараз рамантуецца. Я асабліва дзякую мітрапаліту Саву за аказаную скіту падтрымку і з любоўю даражу гэтай дапамогай, — гаварыў архімандрыт Гаўрыіл.

Архімандрыт звярнуў увагу на прыгожую расліннасць вакол скіта. Расказваў пра птушак і звярыну вакол пустэльні, прыгожыя краявіды каля ракі Нарвы. Скіт знаходзіцца жа ў строгім птушыным запаведніку. Адказваючы на пытанне, айцец Гаўрыіл сказаў, што паслушнікам стаў у Супрасльскім манастыры ў кастрычніку 1984 года і пражыў у ім 23 гады. Там напісаў і абараніў доктарскую дысертацыю. Хацеў бы яшчэ, жывучы ў пустэльні, заняцца габілітацыяй. Адна з жанчын, якія складалі большую частку ўдзельнікаў спаткання, спыталася, як навучыцца пакоры і цярпення.

— У духоўным жыцці, на дарозе да збаўлення душы, пакора самая важная. Без пакоры чалавек робіць усялякае грахоўнае. Трэба пачынаць вучыцца пакоры ад вельмі частага вымаўлення ў розных жыццёвых абставінах слоў „прабач”, „прабачце”, і быць радасным у адносінах да ўсіх людзей. У маладых людзей цяпер мала часу, каб сустракацца з іншымі, размаўляць са сваімі дзяцьмі, жонкай або мужам. Дзеці сядзяць каля камп'ютараў і ў іх таксама мала вольнага часу на размовы. Ад усяго гэтага паяўляюцца нервы, а пасля псіхічныя хваробы. Вы таксама наведвайце суседзяў і старайцеся часта размаўляць з іншымі людзьмі, бо гэта робіць жыццё больш радасным. Толькі падчас сустрэч не абгаворвайце іншых і не асуджайце іх, — сказаў айцец Гаўрыіл.

Старэйшыя жанчыны заявілі, што практычна перад кожным панадворкам у Грабаўцы стаяць лавачкі, на якіх яны спатыкаюцца з суседзямі. Архімандрыт Гаўрыіл раіў таксама лечыцца зёлкамі, але па параду прасіў звяртацца да спецыялістаў па зёлках, бо зёлкі таксама могуць быць моцна шкоднымі для здароўя, калі іх прымаць многа.

Сабраныя ў Грабаўцы былі рады сустрэчы з архімандрытам Гаўрыілам. Пасля спаткання ўдзельнікі сустрэчы куплялі гарбаткі з зёлак, выкананыя паводле рэцэптуры айца Гаўрыіла.

— Гутарка на духоўныя тэмы патрэбная нашым вернікам, а айцец Гаўрыіл — аўтарытэт у гэтай галіне. Жыхары Грабаўца звыкліся ўжо з сустрэчамі, падчас якіх вядуцца размовы аб духоўным. Я ад некалькіх гадоў падчас Вялікага посту кожныя два-тры тыдні арганізую ў святліцы спатканні з вернікамі.Тады супольна глядзім фільмы, у якіх па-рознаму пастаўлена тэма духоўнага жыцця. Пасля адказваю на пытанні сабраных, — сказаў пасля завяршэння сустрэчы протаіерэй Славамір Аўксецюк.

— Мы вельмі рады сустрэчы. Айцец Гаўрыіл патрапіць так прыгожа расказваць як правільна жыць. Гаварыў, што трэба быць пакорлівым і не асуджаць іншых. Мы спачуваем яму, што жыве ў такіх цяжкіх умовах на паўвостраве, — гаварылі пасля спаткання жанчыны.

— Я ўжо тры разы была ў скіце айца Гаўрыіла і я пад вялікім уражаннем ад таго, што там пабачыла і пачула. Гэтага не расказаць. Трэба асабіста паехаць на паўвостраў, каб адчуць духоўную атмасферу, якая там пануе. Цешуся, што маем магчымасць пагаварыць з айцом Гаўрыілам непасрэдна ў нашай гміне, — заявіла Міраслава Іванюк, бібліятэкарка Гміннай публічнай бібліятэкі ў Дубічах-Царкоўных, суарганізатарка спаткання.

— Я рады, што на спатканне прыйшло так многа людзей, што прыбыў настаяцель Дубіцкага прыхода. Нашы людзі павінны ведаць, што мы праваслаўныя і беларусы. Трэба з імі размаўляць аб духоўным і нашым мінулым, — сказаў пасля сустрэчы архімандрыт Гаўрыіл.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## (ч. II)


Дзецюкі

# Салідарныя з Беларуссю — 2015

Падчас сёлетняга, дзявятага канцэрта «Салідарныя з Беларуссю» ў Варшаве выступілі біг-бітавая Аня Русовіч і і рок-фолькавы «Эней», кракаўская фольк-панкавая «Ганьба!», пераплятаючая рок з фолькавым гучаннем, легендарны ўкраінскі гурт «Воплі Відаплясава». З Беларусі прыехала «Shuma», якая спалучае ў сабе традыцыйныя гукі з электроннай музыкай (два спевакі і двух дыджэяў; нядаўна выпусцілі свой дэбютны альбом «Жніво») і група, заснаваная ў Гродне ў 2012 годзе, якая заваявала незалежную музычную сцэну — «Дзецюкі». Яшчэ да канцэрта і падзей, якія адбываліся ўжо тыдзень раней, старшыня Ініцыятывы «Вольная Беларусь» **Фелікс Тушко** сцвярджаў:

— Нам залежала на тым, каб канцэрт адбыўся непасрэдна перад выбарамі. Памятаем, што здарылася тады ў нашых суседзяў у 2010 годзе. Большасць канкурэнтаў Аляксандра Лукашэнкі трапіла ў турму.

На канцэрце не цяжка было заўважыць дзясяткі маладых валанцёраў, якія працуюць пры абслузе мерапрыемства. Варшаўскія валанцёры-гімназісты Багдан і Олаф былі аднадушныя: «Беларусь асацыюецца ў першую чаргу з Лукашэнкам і смешным сцягам, але не з тым праўдзівым — бел-чырвона-белым, і гэтым, падобным на партугальскі». — «Ну і з добрай музыкай», — дадала іх сяброўка.

## Мастацтва гэта ружжо

Як пісалі мы ў папярэдняй «Ніве», са сцэны з пасланнем да беларусаў выступілі палітыкі. Сярод іх быў **Генрык Вуец**, актывіст апазіцыі з ПНРаўскага часу і адзін з лідараў першай «Салідарнасці», пры ваенным становішчы інтэрнаваны, а затым заключаны ў турму. У размове з «Нівай» ён сказаў:

— Сама свабода не прыходзіць. Вы павінны змагацца за яе. Найлепш мірна, настойліва, але і востра, не паддавацца. Я спадзяюся, што Беларусь таксама зможа карыстацца свабодай. Я прыходжу на гэтыя канцэрты, таму што мы таксама калісьці толькі марылі аб свабодзе, ну і яе маем, і дзякуючы нашым уласным намаганням, таму што ніхто звонку гэтай свабоды не прыносіць. Каб дасягнуць яе, у першую чаргу трэба яе любіць і ведаць, што гэта доўгі шлях, і што трэба яе здабываць паступова. Гэта надзвычай важна, каб дзейнічаць разам, салідарна.

У якасці разагрэву публікі перад канцэртам быў прадстаўлены новы мінскі музычны праект «Амплітуда Смеласці», якой задумшчыкамі з'яўляюцца вакаліст Пятро Клюеў і гітарыст Уладзімер Майсюк. Як кажуць абодва музыканты, гэта «не проста каманда, але музычны рух, мэта якога заключаецца ў заахвочванні спытаць сябе, наколькі мы моцныя, каб заставацца чалавекам, грамадзянінам...». Песні выконваюць на вершы класікаў Генадзя Бураўкіна ці Рыгора Барадуліна і на ўласныя тэксты. У праект уключыліся вядомыя музыканты з іншых груп, «якіх аб'ядноўвае шчырасць, мужнасць, праўда ў музыцы і ў жыцці». Спыталі мы ў **Пятра Клюева**, як разумее ён волю:

— Мабыць, гэта здасца дзіўным і парадаксальным, але я лічу, што адсутнасць свабоды для мастака часам робіць добра. Поўная свабода часта прыводзіць да ляноты. Такі прэс часам дапамагае ў творчасці. У Беларусі свабода магчымая, асабліва, калі глядзець на гісторыю Польшчы і яе «Салідарнасці», якая для свабоды зрабіла каласальную справу. І ў Беларусі ёсць надзея, што салідарнасць у нацы прачнецца. Пытанне ў тым, што павінна адбыцца, каб гэта здарылася? Я лічу, што мастацтва з'яўляецца самай магутнай зброяй, а не палітыка. Цяпер музыкі маюць больш аўтарытэт сярод беларусаў, чым палітыкі. Былі дзве хваробы XX стагоддзя: нямецкі нацызм і савецкі камунізм. На жаль, у нашай Беларусі савецкі камунізм трывала сядзіць у галовах. І самая вялікая бяда ў Беларусі гэта савецкасць.

У шатры перад Палацам культуры і навукі гледачы бурна прынялі гродзенскі


Падляшскія беларусы: Оля Каліна, Ганна Пякарская і Ігар Карнілюк чакаюць канцэрта

культавы гурт «Дзецюкі», якога назва адносіцца да студэнцкых паўстанцаў 1863-1864 гг., якіх так называў Кастусь Каліноўскі. Лідар гурта **Алесь Дзянісаў** (гітара, вакал) у размове з намі быў пераканаы:

— На дадзены момант у Беларусі немагчымая перамога дэмакратычных сіл. Пакуль нічога не зменіцца. Нават мастацкая альтэрнатыва ў руках рэжыму, па меншай меры ў нас, у Гродне. Мы не можам арганізоўваць тут канцэртаў і іншых мерапрыемстваў, выходзячы па-за гета, вызначанае мясцовымі органамі ўлады. Сёння ў Беларусі людзі думаюць толькі як зарабіць грошы, яны баяцца за сваю задніцу.

Успамінаючы пра заступніка групы, ён адзначыў:

— З Кастуся Каліноўскага ўлада зрабіла бандыта. Нават у школах у цяперашні час кажуць, што Мураўёў быў добрым адміністратарам, а Каліноўскі памыляўся і быў бандытам. Мы разумеем яго інакш. Нягледзячы на памылкі, якія ён зрабіў, для мяне і нашай каманды гэта не толькі сімвал барацьбы супраць Расійскай імперыі, таталітарызму, але чалавечай годнасці, чалавечай маральнай вышыні.

**Руся**, вакалістка і аўтарка канцэпцыі гурта «Shuma» выказала ўпэўнена:

— Для мяне свабода з'яўляецца філасофскай канцэпцыяй. Гэта, перш за ўсё, калі ты ведаеш, што сапраўды хочаш у жыцці, імкнешся да таго, але не перашкаджаеш іншым, тым, хто цябе акружаюць. Ёсць людзі, незалежна ад іх грамадзянства і нацыянальнасці, якія вольныя, якія ўмеюць быць свабоднымі ўнутрана, у гэтым сэнсе таксама разнастайныя беларусы. Я адчуваю сябе свабоднай, дзе б я не была.

**Пётр Саладуха**, кіраўнік групы з украінскімі каранямі «Эней»:

— Як правіла, мы людзі, і гэты падзел на розныя нацыянальнасці можа быць вельмі цяжкім часта з-за гістарычнай спадчыны і, як маладое пакаленне, гэтыя адрозненні мы хацелі б размываць. Мы жывем у адной Еўропе, і хай межы заўсёды будуць адкрытымі. Хай сем'і з Польшчы і Украіны ды Польшчы і Беларусі змогуць лёгка прыязджаць адны да адных. Давайце будзем адкрыты адны на адных і давайце проста яднацца.

З захапленнем прыняты быў легендарны ўкраінскі гурт «Воплі Відаплясава», які па-беларуску праспяваў «Краіну мрой».

## Мова гэта зброя

У рамках спадарожных мерапрыемстваў тыдзень да канцэрта можна было прыняць удзел у выставах беларускіх мастакоў (Вольгі Кузьміч разам з польскай групай «Krasnals» і Вольгі Бабурынай), і падчас канцэрта можна было паглядзець жывапісны перформенс «Пагляд без межаў» у выкананні **Алеся Пушкіна**, перформера і апазіцыйнага дзеяча, які жыве ў горадзе Бобр. «Ніве» пасля сказаў:

— Вось тое, што я намаляваў на сцэне, перадам Ніне Ваўранюк, каб завезла на Падляшша. Я зрабіў цяпер гэты пасыл, таму што ёсць беларусы ў Польшчы, а я з усходу Беларусі, і мы раздзелены мяжой. Немагчыма аддзяліць сініх вачэй чалавека, яго рук. Гэтая праца — мая салідарнасць з беларусамі Падляшша і з тымі, хто з'яўляюцца прыхільнікамі Беларусі з гэтага боку Польшчы.

Паказаны былі таксама непаказваныя да гэтага часу сучасныя беларускія дакументальныя фільмы, а на наступны дзень пасля канцэрта адбылося дэбаты з удзелам Наталлі Панчанкі, старшыні нефармальнай арганізацыі «ЕўраМайдан Варшава», Франка Вячоркі, беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча маладога пакалення, журналіста Зміцера Дашкевіча, лідара руху «Малады фронт» і Паўла Белавуса, грамадскага дзеяча, аніматара культуры, сузаснавальніка мінскай «Арт-Сядзібы». **Зміцер Дашкевіч** амаль у самым пачатку дэбатаў сказаў:

— Словы, якія мы гаворым у нашай беларускай мове, гэта наша самая вялікая зброя, а часам толькі адзіная.

**Франак Вячорка**:

— Мова не толькі зброя ў сучаснай беларускай рэчаіснасці, але гэта таксама тое, што заўсёды адрознівала беларусаў ад расіян (...). Мова таксама з'яўляецца адным з палёў бою з рэжымам за захаванне сваёй самабытнасці. Гэта не толькі змаганне за дэмакратыю (...). Гаворка ідзе таксама аб мастацкіх формах супраціву. Сама культура не прыводзіць да палітычных змен, але з'яўляецца іх каталізатарам, падтрымлівае іх, іграе ролю мабілізацыі.

**Павел Белавус**:

— Дзяржава, аднак, змагаецца з культурай. Такім чынам узнікаюць чорныя спісы, напрыклад, музыкаў.

**Наталля Панчанка**:

— Культура з'яўляецца пачаткам самаідэнтыфікацыі.

Узгадалі пра ўдзел беларусаў у вайне ва Украіне і яе беларускіх ахвярах.

**Франак Вячорка**:

— Ёсць людзі ў Беларусі, якія падтрымліваюць Майдан, свабодную Украіну. Тым не менш, большасць беларусаў паддаецца расійскай прапагандзе. Яны лічаць, што Пуцін амаль пасланнік Бога, які павінен выратаваць таксама Беларусь.

**Павел Белавус**:

— Папулярнасць і падтрымка Пуціну ў Беларусі нават вышэйшая, чым для Лукашэнкі.

**Франак Вячорка**:

— Беларускае грамадства, аднак, мабілізавалася, тая яго актыўная частка. Акцыі з вышыванкамі, курсы беларускай мовы з'яўляюцца паслядоўнасцю падзей ва Украіне. Людзі ўсведамляюць, што калі яны не будуць разумець, размаўляць па-беларуску, яны не будуць думаць пра будучыню Беларусі, то іх дзеці будуць жыхарамі расійскай губерні, не будуць мець сваёй дзяржавы. Людзі толькі зараз усведамляюць сабе каштоўнасць і важнасць незалежнасці (...). На працягу двух гадоў так званай лукашэнкаўскай лібералізацыі ў дачыненні да беларушчыны нічога не змянілася, не з'явілася больш беларускай мовы ў школах, у інфармацыйнай прасторы, у сродках масавай інфармацыі. Ёсць касметычныя змены, але не стратэгічныя. Аднак, калі Пуцін яшчэ больш прыцісне Лукашэнку да сцяны, то ён нават заспявае яшчэ і па-беларуску, і нават па-польску. Гэта не ёсць асоба, якая думае каштоўнасцямі, а толькі аб захаванні сваёй улады.

Яшчэ да канцэрта адзін з лідараў беларускай апазіцыі, нядаўна вызвалены з турмы кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года **Мікола Статкевіч** у размове з «Нівай» на пытанне, што дае такі канцэрт як «Салідарныя з Беларуссю», падкрэсліў:

— Прыцягвае ўвагу польскага грамадства да праблем у Беларусі і ў нейкай ступені ўплывае на паводзіны палітыкаў (...). Гэта, у пэўным сэнсе, таксама насуперак таму, што ў цяперашні час робіць у адносінах да Беларусі многія еўрапейскія палітыкі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Крынскія вялікія гонкі



Турыст, які пападае ў Крынкі, бачыць перш за ўсё бязлюдныя вуліцы. Магчыма, сустрэне яшчэ ідучага ў краму пенсіянера альбо дэнатуршчыкаў, дзяжуруючых у парку ў цэнтры гарадка.

І вось здзіўленне не толькі турыстам, але перш за ўсё самім крынчанам. На вуліцах мястэчка, ужо з пятніцы 9 кастрычніка, безліч веласіпедыстаў — маладых, у клубнай вопратцы, на прафесійным рыштунку. На рукавах і калашынах чытаю надпісы: Варшава, Торунь, Грудзёндз, бачу нават колеры сцяга Рэспублікі Беларусь.

Зразу здагадваюся, што напэўна гэта справа рук Наталлі Гадлеўскай — крынскай заўзятай папулярызатаркі веласіпеднага спорту. Звязаўшыся па тэлефоне, Наталля запрашае мяне на нядзельныя веласіпедныя гонкі, а дакладней на XII Міжнародную вулічную велагонку-крытэрыум імені Юзэфа Гасцілы. Патранат над мерапрыемствам узяў сакольскі стараста. У ліку арганізатараў — Падляшскі акруговы веласіпедны саюз, Вучнёўскі спартыўны клуб «Фенікс-Крынкі» і Сакольскі веласіпедны клуб «Сокал».

У гонках змагаецца каля 200 ліцэнзійных спартсменаў. Старт — пад гасподай, тут таксама і мэта. Дзень сонечны, але дастаткова халаднаваты. Можна пагрэцца ў той жа гасподзе за кубкам гарбаты альбо міскай смачных калдуноў у расоле. У адной зале веласіпедысты і іх балельшчыкі, у другой чарнеюць госці памінальнага абеду. Шалёная гаманіна. Столькі людзей на зусім невялікай прасторы, столькі народу ў мёртвых Крынках. Гучаць руская, літоўская, а нават латышская мовы. Не грэецца толькі Наталля. Ёй няма нават калі гарбаты папіць. Праце на трактарным прычэпе, нешта запісвае ў паперах, кантралюе кожны старт. Разам з ёй — суддзя з Гародні Іван Найдзёнаў, які выдатна валодае рускай і польскай мовамі, а па беларуску — ні слова.

— Мне сюды запрасілі дапамагчы ў правядзенні спаборніцтваў, — прызнаецца, не адрываючыся ад працы. — З Падляшскім акруговым веласіпедным саюзам супрацоўнічаю ўжо здаўна. Яшчэ ў раннім юнацтве прыязджаў я сюды як удзельнік веласіпедных гонак. Сёння з Беларусі нас тут шмат, каманды з Гародні, Слоніма, Брэста, Віцебска, Мінска, Магілёва. Тут завяршаем наш веласіпедны сезон. Прымаюць нас вельмі добра. Наталля таксама да нас прыязджае. Пакуль адна, але калі падрастуць яе маленькія гоншчыкі, напэўна і яны да нас прыедуць.

Крынскія малыя падапечныя Наталлі стартавалі першымі. Змагаліся за кубак Крынскага надлясніцтва. З ліку наймалодшых першае месца заваяваў чацвёртакласнік Пётр Таўдуль. Як сам прызнаецца, у спорт уцягнула яго старэйшая сястра, таксама адна з сённяшніх пераможніц. З клубнай вопраткай і каскай расстаецца яна, мабыць, толькі тады, калі лягае спаць.

Дзевяцігадовая Зузя — дачка Наталлі — не папала ў першую тройку, але надта гэтым не пераймаецца. Для яе за перамогу важнейшае ўдзельніцтва. Заўтра




■ Патрыцыя Таўдуль — пераможніца ў катэгорыі «жачкі»

адпраўляецца на двухтыднёвае лячэнне ў шпіталь, павінна зберагаць сваё здароўе, але не змагла стрымацца ад старту. Зузя вельмі хоча ісці маміным следам, дапамагаць у арганізацыі спартовага жыцця ў мястэчку. Перажывае будучыню штотыднёвых, дзіцячых, веласіпедных серадаў.

— Мама заўсёды рыхтуе сваім падапечным салодкія ўзнагароды.Часта прыходзіцца ёй купляць іх на свой кошт. Што будзе, калі маме не хопіць грошай? — сур'ёзна хвалюецца дзяўчынка.
— Бацькі дзяцей не хочуць дакласці сваю залатоўку, для іх гэта страта часу. Але ж калі добра трэніравацца, можна стаць чэмпіёнам свету.

Для вучня сярэдняй школы Германіса Озальса з Рыгі веласіпедны спорт стаў менавіта такой брамай у свет. Ён удзельнічаў ужо ў спаборніцтвах у Славакіі, Аўстрыі, Літве, Эстоніі, а цяпер захапляецца крынскімі краявідамі і прыродай.

Міжнародныя спаборніцтвы на міжнародным узроўні. Усё гэта ў Крынках. Сярод удзельнікаў можна было пабачыць, між іншым, Алана Банашка з Новага-Двара-Мазавецкага — чэмпіёна Еўропы па трэку і Данеля Станішэўскага з Цеханова — віцэ-чэмпіёна свету па трэку ў Астане і чэмпіёна Еўропы ў Афінах. Гонкамі найбольш цешыліся наймалодшыя крынчане. Халодны вецер не перашкодзіў ім у гарачым падахвочванні велагоншчыкаў. Былі яны з веласіпедыстамі ад раніцы да апошняга вечаровага старту. Дачакаліся таксама падарункаў ад Наталлі за ўдзел у серадовых трэнінгах. Пагаварыць з Наталляй «Ніва» змагла толькі позним вечарам, калі ўсе госці спаборніцтваў адправіліся дахаты, а яе дзеткі яшчэ не ляглі спаць.

Сустракаемся ў яе маленькай хатцы па вуліцы Сакольскай у Крынках. Наталля — маці траіх, малых дзяцей, ледзь зводзіць канцы з канцамі, але яшчэ хапае ёй сіл на любімую справу.

— Гэта маё другое жыццё, — гаворыць пра веласіпедны спорт. — На веласіпед селі мы разам з братам у 15 гадоў. Я была ўжо спартыўным суддзёй і так засталося. Потым заразіла сваіго мужа і дзяцей.

— *Цяпер заражаеш крынчан?*

— Ад чатырох гадоў вяду ў Крынках дзіцячыя, веласіпедныя серады. Арганізую спаборніцтвы, у якіх рэгулярна стартуе каля 60 удзельнікаў ва ўзросце ад пяці (а нават менш) да пятнаццаці гадоў. Дзейнічаю пад шыльдай Вучнёўскага спартыўнага клуба «Фенікс», заснавальніцай і старшынёй якога я з'яўляюся. У мяне ўжо чатыры веласіпедысткі, з якімі выязджаем на спаборніцтвы ўсюды, дзе нас запросяць.

— *Раскажы пра Тваё супрацоўніцтва з мясцовым насельніцтвам.*

— Ёсць кола фанатаў, якія мне дапамагаюць. Але не кожны разумее ідэю веласіпеднага спорту. Я заўсёды стараюся паказаць яго з як найлепшага боку.

— *Як выглядала падрыхтоўка да сённяшніх спаборніцтваў?*

— Шмат працы. Каб правесці адзін дзень спаборніцтваў, трэба было рыхтавацца цэлыя два месяцы.

— *Цяпер крыху пра кантакты з Беларуссю.*

— З наступнага года хочам пачаць малыя польска-беларускія гонкі для дзяцей у катэгорыі 11 і 12 гадоў. Будзем папулярызаваць веласіпедны спорт, але таксама знаёміцца з культурай нашых суседзяў. Так было ў маім дзяцінстве. Беларусы прыязджалі на спаборніцтвы ў Беласток, а мы ездзілі туды. Гэта адбывалася вельмі часта ў тыднёвым альбо двухтыднёвым рэжыме. Каб гэта здзейсніць, неабходная падтрымка з боку крынскіх улад і спонсараў. Буду старацца.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Нязведаныя наканаванні лёсу

З зацікаўленасцюназіраю за ходам выбарчай кампаніі ў парламент. Заўзятае саперніцтва вядзе Грамадзянская платформа з ПіС. Усё прадвяшчае, што партыйная групоўка Яраслава Качынскага пераможа на выбарах і самастойна будзе ўпраўляць краінай. І гэта мяне трывожыць. Я не палітык і скажу проста — мяне IV Рэч Паспалітая не цікавіць, ды і моташна становіцца ад балбатні Антонія Мацярэвіча пра смаленскае следства. Больш станоўча выказваецца Лешак Бальцаровіч: „ПіС гэта згустак ПНРу, у дадатак пазбаўлены маральных тармазоў. З гэтым трэба змагацца. Трэба мабілізаваць разважлівых, рабіць пасмешышча з папулістаў".

Як член шматлікай сям'і пенсіянераў хачу ад кандыдатаў на крэсла прэм'ер-міністра пачуць, напрыклад, якімі рэформамі першнаперш зоймуцца ў часе свайго праўлення. Ці будзе ліквідаваны „стары партфель"? Што з рэформай службы аховы здароўя? Ці апекуны дзетак з абмежаваннямі і асоб няздольных да самастойнага існавання могуць лічыць на падтрымку ўрада? Як у далейшым бачаць справу ліквідацыі КРУС ды Нацыянальнага фонду здароўя? Гэта ж простым вокам бачна несправядлівасць пры плаце падаходнага падатку сярод земляробаў — у выпадку КРУС — як і няўмелае размеркаванне фінансавых сродкаў для асоб з абмежаваннямі. Прыкладаў не стану далёка шукаць. Першы збоку: чатыры гады таму плаціў я за артапедычныя боты (па заказе ў майстэрні) шэсцьсот з лішнім злотых. Сёлета вымушаны быў заплаціць 956 зл. Калі запытаў у фірме чаму так дорага, дык адказалі: „НФЗ недастаткова кампенсуе (217 зл. — У. С.), а міністэрства акцэптавала цэннік паслуг". Вось, даражэнькія, якія вырастаюць кветкі ў агародчыку ўпраўляючых. Пенсіянеру-інваліду няздольнаму да самастойнага існавання з трыццацішасцігадовым стажам працы ЗУС плаціць штомесячна 1547 зл. (пасля сёлетняй прыбаўкі 36 зл), а спадар Д. — блізкі сямейнік лідара ПіС растрачвае 13 мільёнаў злотых з фондаў для асоб з абмежаваннямі. Ці такой мае быць справядлівасць? А што з абяцанкамі прэзідэнта Анджэя Дуды наконт бясплатнага аказвання юрыдычных паслуг „Дуда дапамога"? Існавала для рэкламы. Пасля выбараў юрыст Януш Вайцяхоўскі прапаў як цень на вадзе. Так мабыць будзе і з цяперашнімі абяцаннямі Бэаты Шыдла. Таму сур'ёзна падумаю пры якім прозвішчы паставіць свой „крыжык" 25 кастрычніка.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Новыя ўлады ТСНЗ

Выконваючай абавязкі старшыні Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі (ТСНЗ) з 23 верасня гэтага года з'яўляецца Алімпія Павільч, сакратаром — Анна Стульгіс, а членамі праўлення — Люба Бароўская, Люба Янушкевіч, Вольга Зданоўская-Місяюк і Тадэвуш Кшыжанскі.

Вечарам 2 кастрычніка г.г. сябры Нараўчанскай зямлі сустрэліся ў святліцы ў Нараўцы. Прысутныя дыскутавалі на тэму далейшай дзейнасці ТСНЗ, што прыняць з таго, што рабілі дагэтуль і што неабходна дадаць, каб пашырыць дзейнасць. Усе задумваліся над тэмай наступнага конкурсу па гісторыі і сучаснасці Нараўчанскай гміны. Надалей будуць дэманстравацца кінафільмы тутэйшай зямлячкі, кінарэжысёркі Тамары Саланевіч. ТСНЗ будзе ладзіць сустрэчы з цікавымі людзьмі, якія тут жывуць або выехалі за межы нашай краіны, але наведваюць сваю родную старонку.

Зараз ТСНЗ з'яўляецца суарганізатарам выставы вясельных партрэтаў жыхароў Нараўчанскай гміны. Адкрыццё экспазіцыі адбудзецца 9 кастрычніка г.г. у Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

2 кастрычніка г.г. ТСНЗ арганізаваў у святліцы таксама адмысловае застолле. Удзельнікі і ўдзельніцы сходу спявалі беларускія, польскія і рускія песні. Завадатарам вечарыны была адораная музычным талентам Вольга Зданоўская-Місяюк, якая прыгожа спявала і грала на акардэоне. Яна заахвочвала ўсіх да спявання.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Прысяга першакласнікаў бельскай „тройкі”

Згодна традыцыі мінулых гадоў вучні бельскай „тройкі” далі прысягу першакласніка. 9 кастрычніка спартыўная зала была перапоўнена асобамі, якія прыйшлі на гэтую важную падзею. Бацькі і настаўнікі, са слязамі ў вачах прыглядаліся ўрачыстасці.

— Трэба адзначыць, што гэта адна з важнейшых падзей, якая адбываецца на працягу навучальнага года, — кажа настаўнік беларускай мовы Андрэй Мароз. — Дзеці вельмі перажывалі, што яны будуць выступаць першы раз, што будзе шмат людзей, прыйдуць іх родныя, бацькі. Для іх гэта вельмі важная падзея, да якой мы ўжо рыхтаваліся загадзя.

Якраз першакласнікі, якіх у гэтым годзе больш за 120, былі героямі дня. Святочна апранутыя дашкольнікі ў адпаведнасці з традыцыяй прысягалі на сцяг, між іншым, берагчы родную мову і сумленна выконваць абавязкі вучня.

Урачыстасць пачалася з артыстычнай часткі. Дзеткі праспявалі вядомую чытачам „Зоркі” песеньку „Нам шэсць гадоў”. Аднак — як падкрэсліває настаўнік першакласнікаў Андрэй Мароз, — дзеткі паказалі толькі невялічкую частку таго, чаго паспелі навучыцца цягам апошняга месяца.

— Ведаем ужо ветлівыя словы, вершы. Увогуле дзеці вельмі любяць заняткі беларускай мовы і ахвотна вучацца і пазнаюць новыя словы.

Комплекс школ з беларускай мовай навучання № 3 у Бельску-Падляшскім гэта адзіная і найбольшая школа на Падляшшы, якой усе вучні абавязаныя вывучаць беларускую мову. З пачаткам школьнага года ў „тройцы” працуе шэсць першых класаў.



**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Бяроза

Сярод сясцёр беланогіх
сокам брыняе,
расхрыстаная бярозка
кучаравая,
дробныя лісточкі
ветрык чэша ў маі:
«бэтуля альба»
ў косах ёй іграе.
З галінамі ніцымі
бяроза паніклая,
а самец-бяроза
ў неба голле ўскідвае.
Бяроза пушыстая
над балотам гнецца,
а амерыканская
папяровай звецца.
Нат за Палярным колам
прыземіста трымаецца,
хоць на адзін метр,
і то адбіваецца.
Пасадзі бярозку
каля тваіх вокан,
багацце будзе ў хаце,
дзіця бяда абыдзе
бокам.
І ўтыкай пад дахі
галінкі бярозы,
дык град і маланка
не будуць пагрозай!

Міра ЛУКША

## БЯРОЗКА-ПРЫГАЖУНЯ
*(удмурцкая казка)*

Жылі дзед і бабка. Выправіўся дзед у лес, каб дроў загатовіць на зіму. Падышоў ён да бярозы, замахнуўся на яе сякерай. А дрэва нагнулася і прамовіла людскім голасам:

— Не рубай мяне, дзед, ашчадзі жыццё!

Злякаўся дзед. Ён прыпёрся дамоў і кажа жонцы:

— Хацеў прынесці табе добрых дроў, але бяроза стала мяне прасіць людскім голасам...

— Цікава, што яна табе сказала?

— Калі пакіну яе ў спакоі, тады яна нам будзе паціху спрыяць, дапамагаць...

Усхвалявалася бабка, тупнула нагой.

— Дурны ты, дзед! Бяжы да бярозы і налам галінак, хоць авечак накормім.

Зайшоў ён да бярозкі, пакланіўся і кажа:

— Жонка загадала тваіх галінак на пашу для авечак наламаць.

— Кінь гэта чалавеча, — сказала бярозка, — вяртайся дамоў і скажы жонцы, што здзейсню яе жаданні.

Прыйшоў дзед дамоў, бачыць: увесь панадворак дровамі завалены. А жонка стаіць з заложанымі рукамі і лаецца:

— Навошта мне столькі дроў, калі няма з чаго напячы. Бяжы да сваёй бярозы і загадай, каб мукі нам дала.

Пайшоў дзед да бярозкі, просіць:

— Жонка мукі захацела, — уздыхнуў ён, — з хаты мяне прагнала...

— Усё будзе, — адказала бяроза, — вяртайся дамоў.

Вярнуўся дзед дамоў, бачыць: уся каморка мяшкамі з мукой застаўлена. А жонка, яшчэ больш набандычаная, лаянкай частуе:

— Стары дурань! Галава дзераўляная! Трэба было мяшок золата папрасіць!

Паплёўся зноў стары да бярозы. Распавёў ёй пра новую фанабэрыю бабы. А калі вярнуўся дамоў, у хаце ўжо два мяшкі золата стаялі.

працяг ☞ 7

## УВАГА КОНКУРС! № 43-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 8 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Там, дзе жыве
вясёлы чыжык
У зацішку, пры едлаўцу,
Як сонца ўрані,
рыжы паніч
Блішчыць
з-пад купінкі сіўцу.
Р....**

**Не ў бары расце
— а ў садзе,
Як маленькі парасон,
Грыб няхітры,
вельмі смачны,
з гучнай назвай
Ш........**

**Адказ на загадкі № 35-15: асіна, агуркі. Узнагароду, запісную кніжку, выйграла Сузана Малішэўская. Віншуем!**

# Гайнаўская «шасцёрка»: сур’ёзныя тэмы і вясёлыя выступленні!

— А ці пішаце ў «Ніве» пра Дзень Волі? — спытала Эва Іванюк.

— Вядома, пішам. 25-га Сакавіка адзначаюць многія вучні і многія дарослыя. Тады таксама прылятаюць буслы, у паветры пахне вясной. У час свята выступаюць зоркі беларускай музычнай сцэны, як Зміцер Вайцюшкевіч, «Дзецюкі» ці «Vinsent».

— Гэта добра, — уздыхнула задаволеная Эва.

Адкуль зацікаўленне сур’ёзнай гісторыяй?

— Я ведаю шмат пра «Бежанства» — пояснила дзяўчына. Спектакль пані Іаанны Троц, жывая гісторыя нашых продкаў. Неверагодна, колькі яны перажылі, вытрпелі...



фота Ганны Кандрацюк

У Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы мы сустрэлі прыгожую, жывую кампанію. Вучні IV-VI класаў жыва адрэагавалі на пытанне сяброўкі. Частка з іх чула пра «Бежанства» і Свята Волі. Нехта звярнуў увагу, што іх беларускі клас прыаздоблены гербам «Пагоня». На ім бачым вершніка на кані. Як не цікава, матыў рыцара выступае ў многіх гербах, між іншым, у гербе Беластока, Сямятыч ці Віцебска. За гэтым ідзе гісторыя ВКЛ. Менавіта, па такія веды прыходзяць вучні на ўрокі беларускай мовы. Гэта не просты выклік. Звычайна, заняткі на сёмым і восьмым уроку, калі ўсе галодныя і стомленыя навукай. Але як кажуць — няма плёну без поту! Урокі роднай мовы дапамагаюць нам збудаваць тоеснасць. Зразумець — хто мы. Першай прыступкай да ведаў могуць быць размовы з дзядулямі і бабулямі, беларускія песні, народныя стравы, вышыванкі, казкі і легенды ці дэкламаванне твораў беларускіх класікаў. Вучні з «шасцёркі» самі любяць павесяліць народ. Кожны год яны рыхтуюцца да мастацкіх сустрэч у Гайнаўскім беларускім музеі. Там, сярод сяброў і дарослых, адчуваюць сябе большважнымі і патрэбнымі. Файна вывучыць беларускую мову і песні ды перадаць іх далей, іншым дзецям...

У час сустрэчы шмат пытанняў датычыла «Зоркі» і гісторыі газеты. Найбольш актыўныя вучні — Ягенка Самойлік і Куба Андраюк атрымалі ўзнагароды.

**ЗОРКА**

6 ☞ працяг

— Трэба схаваць золата, — прабурчала бабка, — а то яшчэ людзі ўбачаць, кожны пазычыць або ўкрасці схоча.

Закапалі яны сваё золата ў зямлю. Жывуць яны як жылі, наракаюць як наракалі. Толькі золата спакою не дае ні ўдзень, ні ўначы. Дрыжаць, баяцца, што нехта яго ўкрадзе. Думала жонка, думала, аж прыдумала:

— Ідзі дзед да сваёй бярозы і папрасі, каб яна зрабіла з нас начальства. Каб усе людзі нас баяліся. Каб уцякалі, калі нас убачаць...

Пайшоў стары ў лес, падышоў да бярозкі, нізка ёй пакланіўся. Расказаў, што жонка загадала. Зашумела бяроза лісточкамі і кажа:

— Ідзі дзед дамоў, тваё жаданне здзейсніцца!

Прыпёрся дзед дамоў, ног не адчуваючы пад сабой. Адкрыў дзверы і бачыць... дзіва і жах! Яго бабка рудай поўсцю абрасла. Яе рукі і ногі лапамі сталі, на лапах вострыя кіпцюры. Замест галавы — пыса і зубалі. Хацеў ён нешта сказаць сваёй любцы, але не змог. Замест чалавечай мовы зароў небарака па-мядзведжаму.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

## Вершы Віктара Шведа



### Патрэбная паштоўка

Пытае маму Лёўка:
— Ці маеш ты паштоўку?
Адказвае матка:
— Спытай, мо мае татка.

— Ты не казаў ніколі,
Што трэба табе ў школе.
— Сказалі, — сцвердзіў Лёва, —
Вітаць вас з годам новым.

### Прывядзі бацькоў

Сеў настаўнік над ракой,
Ловіць рыбу ён вудой.
І папаўся на кручок
Невялічкі шчупачок.

Разважае: „Так і быць,
Яго трэба адпусціць".
— Дык плыві і будзь здароў,
Заўтра прывядзі бацькоў.

**Уля Падгаецкая,**
**III клас Гімназіі № 2**
**Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы**

### Я ўжо не магу...

**Я ўжо не магу**
**Даўжэй цябе чакаць.**
**За берагам тваім**
**Бегчы штораз.**
**Тужыць — як маці**
**За родным сынам.**
**Шукаць — як людзі**
**Свайго месца.**

**Ты кажаш, што**
**Гэта такая доля ў нас.**
**Ты праклінаеш**
**Разам праведзены час.**
**Я заплюшчваю вочы**
**І думаю, што ты**
**Здарышся мне**
**Зноў, нанова.**
**А недахопам твайго**
**Кахання, канчаецца**
**Розуму майго аснова.**

**Я магу зноў цябе чакаць.**
**За берагам тваім**
**Бегчы штораз.**
**Заўсёды! Нават**
**Калі ўсё адменіцца.**
**Заўсёды!**
**Я буду цябе кахаць.**

## Польска-беларуская крыжаванка № 43-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39:**

Вада, месяц, марозіва, цукар, страва. Лес, муж, мак, верас, сорт, мама, барада.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока, **Вікторыя Гаць** і **Паўліна Ёдла** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Brawo | Piegowaty | | Na / Wierzba | Dzwon / Orzeł | | | | |
| | | | | | Woźnica / Oda | | | |
| Rama | Brzoza | | | | | | | Ada / Stóg |
| | | | | | | | Oda / Iwo | |
| Przyroda | | Błękit | | | | | | |
| | | | | | | Oto | | |
| Msza | | | Próg | | | | | |

# Другое жыццё **Тарасевіча** альбо Пачатак дарогі

**Спадарыня Крыстына Кастыра разам з Сакольскім асяродкам культуры і Музеем Сакольскай зямлі надумалася зладзіць сустрэчу, прысвечаную жыццю і творчасці Яна Тарасевіча. Мерапрыемства адбылося ў прыгожы восеньскі вечар 3 кастрычніка ў не менш прыгожай зале мясцовага кінатэатра.**

Паклапацілася яна пра добрую рэкламу але, вядома, незацікаўленых тэмай і сілай не прыцягнеш. Да апошніх хвілін хвалявалася ці вялікая зала не будзе пуставаць.

— Нам вельмі хацелася паказаць Тарасевіча з музычнага боку, — кажа Аляксандра Плюта, дырэктар музея — Тут усім пра яго не ведаюць, а музыкай шмат чаго можна дасягнуць.

Не падтрымаць яе — проста грэх. Таму з нашага тыднёвіка адправіліся туды ажно тры журналісткі. Адна з іх — Ганна Кандрацюк — ніўская „Зорка" стала гераіняй-зоркай вечарыны. Аўтарка, між іншым, выдадзенай у 2002 годзе тыднёвікам „Ніва" кніжкі „У бок Тарасевіча" задзейнічала ў якасці медыюму, які спалучыў удзельнікаў сустрэчы з вялікім, але ўсё яшчэ малавядомым кампазітарам. Менавіта яна з'яўляецца „віноўніцай" пасмяротнай славы кампазітара, асабліва ў Беларусі. Калі гаварыць пра медыі ў зладжанай там публічнай бяседзе, удзельнічаў таксама Юры Каліна — вядомы рэжысёр, звязаны, між іншым, з Беластоцкім тэлебачаннем. Інспіраваны кніжкай Ганны Кандрацюк, рашыў актыўна ўключыцца ў працэс папулярызацыі вялікага земляка. Менавіта з яго кароткага, дакументальнага фільма „Ян Тарасевіч — забыты кампазітар", зробленага разам з Ганнай Кандрацюк, пачалася суботняя вечарына.



**Удзельнікі дыскусійнага панэлю (злева): Ганна Кандрацюк, Дыяна Нахіла, Юры Каліна**

Ян Тарасевіч нарадзіўся ў 1893 годзе ў Саколцы, тут у 1961 годзе яго пахавалі. Тады дзе ж як не ў Саколцы ўспамінаць пра яго талент. Кампазітар, піяніст і педагог, музычны геній ад нараджэння, закончыў Пецярбургскую кансерваторыю. Напісаў больш за сто фартэпіянных і інструментальна-вакальных твораў зусім непрызнаных Польскім саюзам кампазітараў. Вымушаны абставінамі лёсу больш за 20 гадоў свайго жыцця правёў у падсакольскім маёнтку Шындзель, жыў, а дакладней кажучы бедаваў, таксама ў Беластоку.

У Шындзелі нарадзіўся і жыве Ян Скварко. У дзяцінстве бачыў яшчэ астаткі маёнтка Тарасевіча. Разам з калегамі частаваўся дворскімі яблыкамі. Цяпер, як кажа, стаяць там толькі каменныя стаўпы ад гаспадарчых будынкаў.

— Пра Тарасевіча, шчыра кажучы, даведаўся я не так даўно, — прызнаецца спадар Скварко. — У вёсцы пра яго ніколі не ўзгадвалі. Быў інтэлігентам, з астатнімі шмат супольнага не меў. Тыповая артыстычная душа. Кепска гаспадарыў, але і для вёскі нічым не прыслужыўся.

Міраслава Вдовяк ужо знаёмая з памятнай дошкай Тарасевічу, якая віднее на Сакольскім доме культуры. Ад Марыі Пановай — праваслаўнай сяброўкі даведалася, што ён спачывае на сакольскім могільніку.

— Я вельмі ганаруся, што ў нашай малой мясціне нарадзіўся такі вялікі кампазітар. Вялікі і забыты, — кажа са слязамі і недаразуменнем спадарыня Вдовяк.

Яго талентам захапляліся ў шырокім свеце. Прызнання на бацькаўшчыне прыйшлося чакаць незвычайна доўга. Больш за 50 гадоў пасля смерці з'явіўся вельмі малады і таленавіты чалавек — зямляк з-пад недалёкай Кузніцы, з вёскі Меляшкоўцы-Паўлавіцкія, які справу музычнай спадчыны Тарасевіча ўзяў у свае рукі. Шымон Борыс — піяніст, дырыжор, кампазітар і тэарэтык музыкі. Закончыў прыватную Музычную школу першай ступені ў Саколцы і Агульнаадукацыйную музычную школу другой ступені ў Беластоку. Шматразовы стыпендыят, цяпер студэнт трэцяга курса факультэта сімфанічна-опернага дырыжыравання Музычнай акадэміі ў Катавіцах.

— Музыка Тарасевіча надта складаная ў выкананні, прынамсі яе частка, — прызнае малады музыкант. — Яна невядомая і недаступная. Каталог вялікі, шмат твораў надалей застаецца выключна ў цяжкіх для расчытання рукапісах. Ён зберагаецца ў мінскім архіве. У Польшчы некалькі твораў паявілася ў зборніку, выдадзеным Беларускім гістарычным таварыствам. Ноты да сённяшняга канцэрта паходзяць з Мінска, здабывалі мы іх цэлы год.

Узровень ігры Шымона Борыса сапраўды захапляльны. Няхай шкадуюць тыя, якія прапусцілі яго суботняе выступленне. Разам з Шымонам творы Тарасевіча прэзентавалі яшчэ таленавітыя сёстры з Гарадка: скрыпачка Аляксандра Абрамовіч і віяланчэлістка Магдалена Абрамовіч.

Шымон Борыс, зямляк Тарасевіча, адчувае абавязак і адказнасць за захаванне і папулярызацыю яго музыкі.

— Тарасевіч непаўторны, — кажа Шымон Борыс. — У яго творах гучыць гэтая зямля. Ёсць фартэпіянны канцэрт, значыць твор на фартэпіяна і аркестр, якога Тарасевіч не закончыў. Вось я цяпер заняўся яго інструментацыяй, значыць завяршэннем. Гэта толькі пачатак дарогі. Жаль, што ў сакольскім кінатэатры няма фартэпіяна. Гэта ж не вялікія грошы, маглі б купіць, тады можна будзе зайграць тут часцей.

У восеньска-зімовым перыядзе адбудуцца чарговыя мерапрыемствы, прысвечаныя сакольскаму кампазітару. У гэты раз з фільмам Юрыя Каліны і з Ганнай Кандрацюк спаткаюцца вучні мясцовых сярэдніх школ.

— Хочацца паставіць Тарасевічу лепшы помнік на могільніку, — кажа Аляксандра Плюта, — падкрэсліць яго важнасць, паказаць, што і ў Саколцы былі вялікія людзі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# КАСТУСЬ

У цёмнай і вільготнай камеры сядзеў малады рэвалюцыянер, які падпісваўся «Яська, гаспадар з-пад Вільні». Яго павінны былі расстраляць, але вердыкт змянілі на ганебнае павешанне. Урэшце Мураўёў не без падставы атрымаў мянушку «Вешацель» і нікому не адпускаў. Нават дыктатару паўстання на Літве.

Яму здавалася, што мінулі цэлыя стагоддзі, адкуль Кастусь выдаў першы нумар «Мужыцкай праўды» і калі першы раз крыкнуў: «Дзецюкі! На маскалёў!». Ці калі б ведаў тады, што гэты шлях завядзе яго пад шыбеніцу, зрабіў бы такія самыя выбары? Ці ўзяў бы на свае маладыя, дваццацішасцігадовыя плечы гэты цяжар, адказнасць за цэлы народ?

Ён ведаў, што стане сімвалам. Ведаў, што пасля яго смерці паўстанне будзе задушана вельмі хутка. Сімвал аднак застанецца. Часам можа вельмі ідэалізаваны, часам можа крыху ўпрыгожаны, але ў гэтым сімвале будзе ўсё, што было найлепшае ў Кастусю Каліноўскім. Чалавека можна забіць, але ідэя, як і сімвал, кулеадпорныя.

Гэтаксама як і Хрыста, Кастуся здрадзіў адзін са сваіх. Так як і Ісус перад арыштам размаўляў з Богам у аліўкавым гаі, так і ён цяпер, запісваючы свае лісты, гаварыў да народа. Так як у Славацкага Польшча была Вінкельрыдам палякаў, так Кастусь Каліноўскі стаўся Вінкельрыдам беларусаў. Ён не хацеў параўноўваць сябе да Хрыста, якога пакута была пасіўная, калі ахвяра Каліноўскага прынесена была ў барацьбе.

У замку прарэзліва заскрыгатаў ключ. Прыйшлі па яго. Гаспадара з-пад Вільні сарвала, ад нерваў. Папрасіў стражніка, каб нікому аб гэтым не гаварыў. Дваццацішасцігадовы маладзец можа адчуваць страх, але сімвал — не.

Цэлая Вільня стрымала дыханне. Некараванаваны кароль Беларусі ішоў праз Лукішскі пляц з паднятаю галавой. Усе, акрамя некалькіх яго сяброў, бачылі яго твар упершыню і не маглі паверыць, што гэты непапраўны рамантык, які хацеў змагацца з ветранымі млынамі, гэты рэвалюцыянер, які хацеў мужыкоў з-пад панскага і царскага ярма вызваліць, што гэты, які цэлую Літву ў руцэ трымаў і якога баяліся ўсе маскалі і іх паплечнікі, гэты дух, якога Ахрана шукала доўгі час і гэта змора, якая адганяла сон з павек «Вешацеля», гэта маладзец, якому павінны быць у галаве толькі дзяўчаты і віно.



Натоўп глядзеў з хваляваннем. Нават аплачаны праз уладу чалавек схаваў згнілы яблык, якім хацеў кінуць у засуджанага. Са слязамі ў вачах глядзеў на яго ветэран — воін напалеонаўскай вайны і лістападаўскага паўстання. «То мяне, старога, — думаў, — павінны расстраляць. Ён павінен пісаць, і пісаць такую праўду справядлівую, як Бог на небе. Ён павінен далей галасіць нашую мужыцкую праўду на свет цэлы». Хоць праўда і справядлівасць былі мэтай, мячом і каханкай са сну, на жаль, дасягнула яго бессардэчная справядлівасць маскальская, а яго праўду маскалі пераўтварылі ў абрыдлую хлусню.

Людзі чакалі нейкай драматычнай акцыі. Самі былі паралізаваны страхам, але верылі, што хтосьці стане атакаваць жаўнераў, хтосьці яго адабʼе, хоць гэта магла быць і няўдалая спроба. Літоўская Пагоня таксама не зышла з гербавага шчыта і не прыйшла яму на дапамогу.

Кастусь ішоў з заціснутым горлам. Не крычаў: «Жыве Беларусь!». Не крычаў: «Хай жыве Літва!». Ногі ў яго былі гумавыя і толькі глядзеў, каб не ўпасці. Не пасля таго, як вытрымаў цяжкія допыты і не выдаў нікога, хоць ведаў сотні прозвішчаў, цяпер мусіў паказаць стойкасць. Ішоў наперад, дзе чакалі яго «Вешацель» і шыбеніца.

У змрочных вачах Мураўёва, якога нават некаторыя расейцы называлі людаедам, панавала дэманічная радасць. Каліноўскі падараваў яму толькі адзін позірк. Гэта быў позірк вольнага чалавека. Такі погляд узбуджае нянавісць у людзей, якія самі свабоды ніколі не спазналі і па нейкай прычыне адбіралі свабоду іншым. «Вешацель» асабіста зачытаў вердыкт. Кастусь не толькі не звяртаў увагі на гэты «прывілей», але нават самога вердыкту не слухаў. Глядзеў на сабраны на пляцы натоўп і развітваўся з народам, якога не быў лідарам, а толькі пакорным слугам.

*Бывай здаровы мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.*
*І часам успомні пра Яську свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго.*

Урэшце закінулі яму пятлю на шыю. Нават калі б дазволілі яму на апошняе слова, не сказаў бы нічога. Усё, што ён хацеў сказаць, ужо даўно перадаў словам і ўчынкам. А «Лісты з-пад шыбеніцы» былі яго адзіным завяшчаннем, якое нам пакінуў.

Я б сказаў, што гэтага дня памёр чалавек, а нарадзіўся сімвал, але Кастусь, Яська гаспадар з-пад Вільні стаў сімвалам пры жыцці і ніколі не памёр.

**Эдуард ГАРШТЫНСКІ**

# Супрасльскі манастыр як буйны інтэлектуальны цэнтр Вялікага Княства Літоўскага (XVI–XVIII ст.); гістарыяграфічнае асэнсаванне

**Даклад Святланы МАРОЗАВАЙ з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы на XXI Міжнароднай навуковай канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці”.**


Фота Аляксандра Вярбіцкага

Супрасльскі манастыр, заснаваны ў 1498 годзе наваградскім ваяводам Аляксандрам Хадкевічам і смаленскім епіскапам Іосіфам Солтанам з часам стаў буйным праваслаўным, а пасля ўніяцкім культурным і інтэлектуальным цэнтрам Княства, як цэнтр літаратуры, кнігапісання, кнігадрукавання, царкоўнага мастацтва. Ён адыграў вялікую ролю ў развіцці шэрагу славянскіх культур. Манастыр трымаў шырокія міжнародныя сувязі з галоўнымі звеннямі рэлігійнага жыцця Праваслаўнай царквы: Кіевам, Слуцкам, Масквой, Сербіяй, Балгарыяй, Грэцыяй.

Манастыр стварыў адну з буйнейшых бібліятэк у ВКЛ і канцэнтраваў у ёй вялізныя кніжныя скарбы розных краін і народаў. У 1557 годзе ў бібліятэцы было звыш двухсот рукапісаў і друкаваных кніг, у 1645 годзе — каля шасцісот, у 1764 годзе — амаль паўтары тысячы. Сярод асабліва каштоўных кніг манастыра былі *Супрасльскі кодэкс*, які яшчэ называлі *Мінеяй ХІ стагоддзя*, *Касмаграфія* Казьмы Індыкаплова, *Супрасльскі летапіс*, жыццяпісы віленскіх пакутнікаў, пахвальныя словы ў гонар святога Клімента Охрыдскага, пропаведзі і пісьмы літоўскага і наваградскага мітрапаліта Рыгора Цамблака, выданні Францыска Скарыны і іншыя. Адукаванымі і працалюбівымі насельнікамі абіцеі былі створаны шматлікія помнікі беларускай тэалагічнай думкі. У 1593 годзе кніжнік Іван Праскура напісаў тут *Жыціе святога Сергія Раданежскага*. У сценах манастыра перапісваліся кірылічныя рукапісы, якія распаўсюджваліся на беларускіх і ўкраінскіх землях; у гэтым распаўсюджванні манастыр адыграў вялікую ролю. Перапісчыкамі былі беларусы і ўкраінцы. У другой палове XVI стагоддзя манастырскай брацціяй была створана і перапісана мноства твораў у абарону праваслаўнай веры на землях Рэчы Паспалітай — *Спісанне проці лютараў*, *Пасланне да лацінян*, *Размова хрысціяніна з юдзеем пра веру і іконы*, *На богапрацiўную, на паганую лаціну* і іншыя. Кнігі актыўна чыталіся і перапісваліся, іх давалі чытаць нават свецкім асобам; як правіла, у манастырах кнігі выдаваліся толькі яго насельнікам. Манастырская бібліятэка славілася сваімі кніжнымі багаццямі, а ў пачатку XIX ст. яна стала прыцягваць буйнейшых славістаў свету.

У пачатку XVII ст. манастыр прыняў берасцейскую унію, хаця яшчэ сто гадоў захоўваў праваслаўную царкоўную традыцыю, быў базыльянскім. У другой палове XVII ст. тысячам уніяцкіх храмаў патрэбныя былі ўласныя літургічныя кнігі; з-за іх недахопу карысталіся маскоўскімі выданнямі, якія разглядалі як няпоўныя ў дагматычных спектры, або тэкстамі лацінскага абраду, што вялі да лацінізацыі ўніяцкай царквы. Таму ў пачатку 1690-х гадоў ураджэнец Полаччыны, доктар тэалогіі мітрапаліт Цыпрыян Жахоўскі заснаваў тут друкарню. І першым яе выданнем быў *Служэбнік*, друкаванне якога пачалося яшчэ ў Вільні ў 1692 годзе, а завершана ў Супраслі ў 1695 годзе. У пачатку XVIII ст. невялікая выдавецкая майстэрня з прэфектам-кіраўніком на чале пераўтварылася ў буйную цэнтралізаваную мануфактуру з пятнаццацю і больш рабочымі. Сярэдні наклад кніг звыш тысячы экземпляраў не пакідае сумнення, што друкарня забяспечвала літургічнай літаратурай уніяцкія храмы ўсёй Беларусі. За сто гадоў існавання, 1695-1803 гг., гэтая друкарня выпусціла, як падаюць розныя дадзеныя, ад 456 да 502 кніг. З іх толькі 35% складалі рэлігійныя выданні, у тым ліку 45 уласна ўніяцкія рэлігійныя кнігі, якія служылі ўмацаванню чытачоў ва ўніяцкай веры. А звыш паловы друкаў супрасльскай друкарні не былі звязаны з мэтамі базыльянскага ордэна. У выдавецкі рэпертуар друкарні ўваходзілі мастацкія творы, панегірыкі, працы па філасофіі, геаграфіі, гісторыі, медыцыне, сельскай гаспадарцы, заканадаўчыя акты, падручнікі, слоўнікі, практычныя парады. У першай палове XVIII стагоддзя выдадзеныя тут польскія і рускія календары сталі першымі масавымі свецкімі кнігамі ў Рэчы Паспалітай. Свецкая літаратура прапагандавала ў Беларусі дасягненні еўрапейскай культуры эпохі Асветніцтва. Яе выдаванне гэта адказ манахаў на павевы таго часу. Як адзначаюць мастацтвазнаўцы, выданні вызначаліся асаблівай імпазантнасцю і своеасаблівай манументальнасцю — гэта арыгінальная з'ява кніжнага мастацтва.

На апошнім этапе сваёй дзейнасці друкарня паставіла свае веды і дзейнасць на карысць асветы грамадства. У апошнія дзесяцігоддзі яна выдала шмат новай літаратуры: працы еўрапейскіх асветнікаў, творы вядучых майстроў польскага Асветніцтва, мемуары ўдзельніка Барскай канфедэрацыі Караля Хаецкага і іншых. Выданні нешматлікай публіцыстыкі, палітычных твораў прысвечаных грамадска-палітычнай сітуацыі ў Рэчы Паспалітай і ВКЛ у апошняй трэці XVIII ст., працы палітыкаў, сеймавыя матэрыялы, паўстанцкія матэрыялы 1794-1795 гг. гэта сведчанне аб адкрытасці манахаў манастыра да грамадства і іх зацікаўленасці лёсам айчыны. Шэраг публікацый надрукавана з гербавай паперы з вывявай Пагоні. На апошнім этапе сваёй дзейнасці друкарня, якая зведвала вялікія фінансавыя цяжкасці, трохі палепшыла стан за кошт заказаў рускіх стараверў і выдала шэсцьдзесят стараверскіх кніг.

Супрасльскі манастыр, як буйны культурны і інтэлектуальны цэнтр, які адыграў важную ролю ў развіцці шэрагу славянскіх культур, дастаткова рана прыцягнуў да сябе ўвагу даследчыкаў. Першымі да яго звярнуліся рускія вучоныя XIX ст. І напэўна першым быў бібліёграф Васіль Сопікаў, які ў сваім вялізным і да гэтага часу не страціўшым значэння даведніку пад назвай *Опыт российской библиографии, или Полный словарь сочинений и переводов, напечатанных на славянском и российском языках от начала заведения типографий по 1813 г.* — гэтая кніга была выдадзена ў Маскве ў 1813 годзе. І Сопікаў сярод іншых твораў розуму чалавечага, як ён называе кнігі, пералічыў шэраг супрасльскіх друкаў. Ён піша ў сваёй працы: „Вельмі разумна і абгрунтавана нашы продкі славілі тыпаграфію нябесным дарам”. І сапраўды, гэтае цудоўнае і непараўнальнае вынаходства справядліва можа дабівацца перавагі над усімі іншымі, так даўнімі, як і новымі відамі мастацтва. Паказаўшы спачатку развіццё тыпаграфскага мастацтва ў Еўропе, аўтар пераходзіць да гісторыі кнігадрукавання ў славена-русаў. Ён піша, што мноства рукапісаў сведчыць пра працавітасць даўніх перапісчыкаў. Ён меў на ўвазе інтэлектуальную дзейнасць асветнікаў манастыра, пачынаючы з XVI ст. Славяне нямнога адсталі ад адукаванай Еўропы ў распрацоўцы тыпаграфічнай установы. У шэрагу кніг ён пералічвае, у прыватнасці, выданні супрасльскай друкарні, м.інш. *Лексікон*, *Царкоўнаславянска-польскі слоўнік* 1722 года, які Сопікаў выявіў у Імператарскай публічнай бібліятэцы, і адно выданне для стараабрадцаў з 1791 г., а таксама *Трэбнік*. Флавіян Дабрански, апісваючы выданні, якія захоўваліся ў Віленскай публічнай бібліятэцы, таксама называе супрасльскія рукапісы і друкі. І сярод іх ён піша пра *Трэбнік або епіскапскі пантыфікал*, і на ім надпіс: „Сія книга написана мною, многогрешным рабом Алексием Лашкевичем, профессар манастыра, в употреблении манастыра Супрасльская”. І далей: „Аще бы кто взял даровал, продал или где инде обернул, завёз, отвёз или отдал, кто бы себе привлацил, с таким всяким хищником або лихоимцем суд буду меци во второе и страшное трепетное и ужасное пришествіе Христово”. Перапісчыкі кніг разумелі іх каштоўнасць, пагроза і праклён таму, хто забярэ кнігу з гэтага манастыра.

Мне прыходзілася бачыць рэдкія супрасльскія выданні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў аддзеле рукапісаў ды рэдкай кнігі і таксама ў польскіх бібліятэках. Кнігі былі розныя, яны былі танныя, прызначаныя для паўсядзённага карыстання, вучэбныя кнігі і катэхізісы ды падарачныя ці сувенірныя кнігі ў дарагім пераплёце. Кнігі, якія я бачыла, былі з вокладкай абцягнутай скурай, з пазалочаным ціс나ёным узорам. Кнігі, якім ужо больш за дзвесце гадоў, сёння прыемна трымаць у руках. Я звярнула ўвагу, што ў пачатку ўказваецца, што гэтыя кнігі выдадзены з маскоўскіх багаслужэбных кніг — вось яна, праваслаўная традыцыя, якая ў XVIII стагоддзі працягвала жыць у гэтым кутку.

У другой палове XIX ст. з'явіліся першыя спецыяльныя працы, прысвечаныя манастыру: Ігната Сцябельскага; ён апісваў гісторыю, унутраную структуру, рэлігійную дзейнасць манастыра, архітэктуру, убранства Благавешчанскага храма. А вось першую грунтоўную працу пра манастыр і яго гісторыю прысвяціў яго настаяцель Мікалай Далматаў, які звярнуў увагу на перапіску кніг, на літаратурныя шэдэўры, а таксама на друкарню. Але галоўная ўвага была скіравана на культурны, мастацкі бок, архітэктуру. Першая ранняя гістарыяграфія мела апісальны характар і ніводная больш-менш значная публікацыя спачатку не звяртала ўвагі на Супрасльскі манастыр як на асаблівы культурны цэнтр. Гэта датычыць і расійскай, і польскай літаратур XIX і значнай часткі XX ст., якія займаліся манастыром, але галоўным чынам як архітэктурным помнікам, хаця звярталі ўвагу, апісвалі літаратурныя шэдэўры, гісторыю манастыра на фоне гісторыі праваслаўнай канфесіі ў Польшчы. І толькі ў другой палове XX, нават у апошнія дзесяцігоддзі XX ст. даследчыкі звярнулі ўвагу на Супрасль, як на асобны культурны цэнтр. Першым гэта зрабіў культуролаг і славіст Юры Лабынцаў, які ўжо чацвёртае дзесяцігоддзе праводзіць экспедыцыйныя даследаванні літаратурнай культуры Падляшша. Вучоны даказаў, што наш манастыр гэта беларускі культурна-асветны цэнтр, буйны інтэлектуальны асяродак ВКЛ, размешчаны на тэрыторыі Гродзенскага павета. А створаная ім базыльянская друкарня была буйнейшай беларускай друкарняй эпохі феадалізму. Ён статыстычна прабуе абгрунтаваць гэту выснову. Калі ўлічыць, што на працягу XVIII ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі выйшла ўсяго дзесяць кірылічных выданняў на царкоўнаславянскай мове, а ў Супраслі больш за сто дваццаць, у тым ліку шэсцьдзесят беларускіх, слушнай можна прызнаць выснову Лабынцава пра тое, што беларускае нацыянальнае кнігадрукаванне ў гэтым стагоддзі цалкам канцэнтруецца ў сценах Супрасльскага манастыра. Назіраннем Лабынцава сугучны зводны каталог *Кнiга Беларусі 1517-1917 гг.* Там зарэгістравана 96 кірылічных выданняў XVIII ст. і ўлічыўшы іх даследчык беларускага кнігадрукавання Георгі Галенчанка паставіў пад сумнеў агульна прынятае палажэнне аб заняпадзе беларускага кірылічнага кнігадрукавання ў гэтых стагоддзях у сувязі з закрыццём праваслаўных брацкіх друкарняў. Яно працягвала развівацца ва ўніяцкім асяроддзі, дзе, акрамя таго, нарадзіўся новы від рэлігійнай літаратуры, у якой кананічныя і літургічныя тэксты былі перададзены беларускай натацыяй царкоўнаславянскай мовы, пачатак чаму паклаў яшчэ Францыск Скарына. Па падліках Лабынцава, каля 67% кніжнай прадукцыі было выдадзена на польскай мове, што сведчыць аб далёка зайшоўшым працэсе паланізацыі як самага выдавецкага цэнтра, так і спажыўцоў яго вытворчасці. 35% кірыліцай, 10% на лацінскай мове і нямнога на літоўскай. Тут было надрукавана 300 выданняў лацінскага шрыфту і больш 120 кірылаўскага, у тым ліку 60 беларускіх.

Разам з Ларысай Шчавінскай Лабынцаў звярнуў увагу на тое, што размешчаны на мяжы паміж Каронай і ВКЛ Супрасльскі манастыр знаходзіўся ў зоне сустрэчы дзвюх культур — праваслаўнай і каталіцкай; г.зн. ён належаў культурнаму памежжу, дзе адбываецца асабліва напружанае але прадукцыйнае сужыццё культур. У Супраслі адбывалася ўзаемапранікненне двух славянскіх светаў: Slavia Orthodoxa і Slavia Romana. Польская і лацінамоўная кніга садзейнічала распаўсюджванню на беларускіх землях, сцвярджаючы даследчык, еўрапейскай навукі і культуры. Паказчыкам укладу гэтага манастыра ў розныя галіны культуры сведчыць ужо тое, што ў Энцыклапедыі ВКЛ з 2006 г. манастыру і яго гісторыі прысвечана восем артыкулаў. Значнымі вяхамі на шляху вывучэння ролі Супрасльскага манастыра ў гісторыі інтэлектуальнай культуры сталі працы польскіх даследчыц Цыбжынскай-Леанарчык і Підлыпчак-Маяровіч. Вывучаліся асобныя рукапісы і друкі гэтага манастыра, вывучаліся як помнікі мастацтва, помнікі кнігапісання. Гэтым займаліся, напрыклад, Майхровіч, Русек, Сяргей Семчынас з Літвы.

На манастыр, як на цэнтр міжславянскіх культурных сувязей першы звярнуў увагу рускі гісторык Аляксандр Рогаў. Яго ідэя развінута ў дысертацыі Элеаноры Возняк, выкананай у Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук у 1993 годзе. Возняк падае манастыр як фенаменальны прыклад супрацоўніцтва славянскіх народаў усходу і поўдня Еўропы і падае яго як цэнтр, які знаходзіўся ў заходняй частцы ВКЛ арганічна ўпісаны ў гісторыю Беларусі. Сваёй працай даследчыца сцвярджае, што XVI век, гэта залаты век у гісторыі манастыра, які выявіўся ў развіцці літаратурнай творчасці, перакладаў з розных моў, дзейнасці кнігапіснай майстэрні, створанні багацейшай, вядомай ва ўсім свеце бібліятэкі. Такім чынам даследчыкі, якія вывучалі Суспрасльскі манастыр як асяродак культуры і інтэлектуальнага жыцця, усе ўказваюць на тое, што гэта быў манастыр новага тыпу, якога гісторыя абсалютна не паўтарае гісторы большасці тагачасных культавых устаноў. І ўсе падаюць яго як новы тып надзвычай плённай і актыўнай у розных галінах культуры выдавецкі асяродак. Паводле мяне, Супрасль гэта культурны і інтэлектуальны феномен, якім цікавяцца вучоныя Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы і далей на захад. І, здавалася б, інтэлектуальны цэнтр, якому прысвечаны дзясяткі артыкулаў і некалькі манаграфій, а працэс яго пазнання надалей працягваецца. І на гэтым шляху даследчыкаў чакаюць новыя адкрыцці.

**Апрацоўка Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# ФЕСТЫВАЛЬ СЛАВЯНСКАЙ ПАЭЗІІ ў Лондане і Варшаве



Ад 1 да 7 кастрычніка адбываўся Фестываль славянскай паэзіі: першая яго частка ў Лондане (трэцяе выданне), другая ў Варшаве (восьмае выданне). Арганізатарамі ў Лондане былі: Мастацкая група КаМПЕ пры Асацыяцыі польскіх пісьменнікаў у выгнанні, рэдакцыя «Паэзія сёння», Балгарскі інстытут, Аўтары і публіцысты Міжнароднай асацыяцыі (APPIA), танцавальны клуб «Bulgara» ў Лондане, Folk ARTel Roussy-Lebedy. Фестывалю даў медыя-патранат «Польскі тыдзень». Міжнародныя мастакі са славянскіх краін былі прыняты ў пасольстве Польшчы ў пасла Анджэя Собкава, які ўшанаваў Аляксандра Наўроцкага, прэзідэнта польскай дэлегацыі, «віншавальным дыпломам пасла Польскай Рэчы Паспалітай у Лондане — «За заслугі ў арганізацыі міжнародных паэтычных падзей і прасоўванні польскай літаратуры за мяжой », а прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі аўтараў і публіцыстаў з сядзібай у Лондане і офісамі ў 100 краінах па ўсім свеце даў яму членскі білет гэтай арганізацыі з нумарам 001. Ад мастацкай групы КаМПЕ Аляксандр Наўроцкі атрымаў прэмію фестывалю славянскай паэзіі. Асноўныя ўрачыстасці фестывалю праходзілі ў Польскім грамадска-культурным цэнтры на Кінг-стрыт — Хамерсміт і ў Балгарскім інстытуце. З Беласточчыны на фестываль у Лондане былі запрошаны Міра Лукша (якая пераклала творы аўтараў з КаМПЕ на беларускую і рускую мовы) і Лідзія Малiноўская, паэтэса, мастачка і спявачка з Бельска-Падляшскага. На фестывалі былі прадстаўлены мультыкультурныя дасягненні славянскіх народаў. Апрача паэзіі і дыскусій былі канцэрты, танцавальныя шоў і вершы вучняў з польскіх школ пры польскім пасольстве. Над цэласцю трымаў вока Аляксей Врубель, паэт, песеннік, старшыня мастацкай групы КаМПЕ і сябра ўправы Саюза польскіх пісьменнікаў у выгнанні. Рэдакцыя «Паэзіі сёння», пасля азнаямлення з новымі творамі польскіх паэтаў у выгнанні, працам якіх спрыяла на сваіх старонках на працягу многіх гадоў, паабяцала пашырыць сваю дапамогу. Передала сваім братам па пяры, якія жывуць у эміграцыі, экземпляры новага нумара «Паэзіі сёння» з апублікаванымі іх вершамі на польскай і англійскай мовах. З аўтараў пражываючых у Польшчы з перакладам вершаў на англійскую мову паказаны быў выбар твораў аўтараў: Юльюша Эразма Болька, Рафала Чахароўскага, Бабрары Юркоўскай, Стэфана Юркоўскага, Пятра Кас'яса, Яраслава Кляйноцкага (дырэктара Музея літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве), Бенедыкта Козела, Мілаша Каміля Манастэрскага, Збігнева Мілеўскага, Станіслава Нычая, Ежы Парушэўскага, Яна Рыхнэра, Марлены Зынгер і Міры Лукшы, якая творы між іншым гэтых аўтараў пераклала на беларускую і рускую мовы, а яе вершы на англійскую мову пераклала Эдыта Росяк з Міхалова.

Адразу пасля фестывалю славянскай паэзіі ў Лондане, удзельнікі прыбылі на VIII Фестываль славянскай паэзіі ў Варшаве, арганізаваны рэдакцыяй «Паэзіі сёння». Першая частка мерапрыемства прайшла ў Варшаве ў Доме Палоніі (вул. Кракаўскае прадмесце, 62), другая ў Музеі літаратуры імя Адама Міцкевіча на Старамесцкай плошчы, 20, трэцяя — з выдатным канцэртам музыкі і паэзіі ў Рэсурсе — арганізаваў яе горад Жырардаў і Культурны цэнтр Жырардова. Далейшыя падзеі адбываліся між іншым у Пяставе, Чэхавіцах-Дзядзіцах, Бельску-Бялай і Цешыне. Апрача пісьменнікаў у фестывалі прыняла ўдзел вялікая група маладых людзей і вучняў. Былі таксама адзначаны два юбілеі самога стваральніка і арганізатара мерапрыемства — Аляксандра Наўроцкага: юбілей сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння і пяцідзесяцігоддзя творчай працы. Юбіляру ўручылі яго новыя кнігі апублікаваныя, сярод іншага, у Грэцыі, Румыніі і ЗША. У рацоўнай частцы фестывалю дамовіліся аб выдаванні чарговых твораў аўтараў ствараючых у Польшчы — за мяжой, а замежных аўтараў — у Польшчы (рыхтуецца такое выданне ў Брэсце) і сумеснай арганізацыі Сусветных дзён паэзіі ЮНЕСКА — напрыклад у Румыніі, Ірландыі, а таксама ў Разані і Яснай Паляне, месцах, звязаных з вядомымі рускімі паэтамі Сяргеем Ясеніным і Львом Талстым. Фестываль славянскай паэзіі з'яўляецца выдатным месцам для знаёмства аўтараў, прадстаўлення сваіх дасягненняў і наладжання вельмі канкрэтных выдавецкіх, перакладчыцкіх і крытычных планаў. Не абмінаюцца таксама беларускія аўтары, у тым ліку і з Беласточчыны, а падтрымку ў арганізацыі мерапрыемстваў аказвае Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.

**(лук)**



Весткі аб тым, што наша пісьменніца Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, без перабольшання імгненна абляцела цэлы свет. Яна стала першай беларускай, якой была аддадзена гэта прэстыжная ўзнагарода. Але, калі чалавека ўзнагароджваюць такой прэміяй, адразу ўзнікае пытанне: а ці цэніцца гэты ўзнагароджаны там, дзе ён жыве?

Пра тое, што творчасць Алексіевіч, ды і ўласна пісьменніца, былі косткамі ў горле ілжывай савецкай уладзе, напісана нямала. Пра тое, што такім жа чынам да літаратаркі ставіцца не менш ілжывая, але ў дадатак яшчэ і антыбеларуская лукашэнкаўская ўлада таксама добра вядома. Як казала ў сваіх інтэрв'ю прэсе Святлана Алексіевіч — улада яе папросту ігнаруе. Сапраўды, ніводнае выдавецтва ў Беларусі, якое працуе за бюджэтныя сродкі, не выдавала яе кніг. Але даволі дзіўным было даведацца, што і незалежныя кнігадрукары ў Беларусі не надта цікавяцца пісьменніцкім скарбам Алексіевіч. За ўсе прамінулыя гады, толькі выдавецтва „Логвінаў" выдала апошнюю кнігу пісьменніцы „Час second-hand. Канец чырвонага чалавека" ў перакладзе на беларускую мову. У той жа час адно з найбольш вядомых выдавецтваў — „Беларускі кнігазбор" (з 2006 года — „Кнігазбор") ніколі не друкавала кнігі знакамітай беларускі, якая хай сабе піша на рускай мове. Гэта, канешне, вельмі прыкра.

Разам з тым трэба адзначыць да гонару „Кнігазбору", што там друкаваліся і друкуецца даволі многа кніг беларускіх пісьменнікаў, а таксама перакладаў. Так, у заснаваным у 1995 годзе выдавецтве ўжо выйшла амаль сотня найменняў кніг.

„За шматвекавую гісторыю свайго існавання беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у свеце. На жаль, яна ў сваім поўным аб'ёме ўсё яшчэ схавана ад нас за сямю замкамі. Сёння настаў час адамкнуць тыя замкі, вярнуць нашу культурную спадчыну, без якой мы не можам усвядоміць сябе як народ. Якраз дзеля гэтага вядомыя дзеячы навукі і літаратуры і ўтварылі прадстаўнічую арганізацыю — Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларускі кнігазбор», які паставіў перад сабой задачу выдаць асобнымі тамамі, пад агульнай рубрыкай усё лепшае з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад самага пачатку пісьменства да нашых дзён", — распавядаецца на сайце выдавецтва, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://bk.knihi.com. Там жа адзначаецца, што аўтары гэтага шматтомнага серыйнага выдання — як ураджэнцы Беларусі, так і іншаземныя пісьменнікі, якія жылі на беларускай зямлі і расказалі пра яе ў сваіх кнігах. „Творы, напісаныя на іншаземных мовах (лацінскай, польскай, жыдоўскай і інш.) ці на старaславянскай і старабеларускай, будуць падавацца ў перакладзе на сучасную беларускую мову", — запэўніваюць кнігадрукары.

З левага боку выяўлення ідзе пералік кніг, якія ўжо надрукаваныя выдавецтвам. Яны падзеленыя па серыях. Ёсць беларуская літаратура, беларускія летапісы і хронікі, а таксама пераклады. Праўда, яны далёка не ўсе, бо дадзены сайт ужо доўгі час не абнаўляўся. Таму казаць пра расповед аб планах выдавецтва, пра што ходзіць на асобнай старонцы, няма сэнсу — яны былі актуальныя пару гадоў таму. Што ж тычыцца бліжэйшых цяперашніх планаў, то, як распавялі ў „Кнігазборы", намераў выдаць творы Святланы Алексіевіч пакуль няма.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

## Беларускі паэт, сын вялікіх патрыётаў

# 80 гадоў з дня нараджэння Юркі Геніюша

Юрка Геніюш нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 г. у мястэчку Зэльва Ваўкавыскага павета ў сям'і лекара Янкі Геніюша і паэткі Ларысы Геніюш. Маці — Ларыса Міклашэвіч паходзіла з маёнтка Жлобаўцы, што паблізу мястэчка Воўпа (цяперашні Ваўкавыскі раён). Янка ж Геніюш нарадзіўся ў Крынках. Неўзабаве пасля нараджэння сына сям'я Геніюшаў эміґравала ў Чэхаславаччыну, у яе сталіцу Прагу. Менавіта там прайшло дзяцінства Юркі Геніюша ў атмасферы беларушчыны, якой быў напоўнены эмігранцкі дом бацькоў. Янка Геніюш быў выдатным доктарам і меў працу. Юрка вучыўся ў пачатковай школе пры рускай гімназіі, пасля ў чэшскай гімназіі.

Калі ў 1948 г. Ларысу Геніюш з мужам Янкам арыштавалі ў Чэхаславаччыне, каб выдаць саветам, дванаццацігадовага Юрку ўдалося пераправіць да сваякоў у Польшчу. Бацькі былі рэпрэсаваны ў Савецкім Саюзе, высланы ў канцлагер. Юрка ж вучыўся ў вячэрняй школе і працаваў у Вроцлаве, Гlівіцах. У 1957 г. пераехаў на стала на Беласточчыну. Ён вывучыўся на дзіцячага лекара ў Медычнай акадэміі ў Беластоку, здабыў вядомасць як літаратар. Працаваў лекарам у Гарадку, з 1981 г. — у Беластоку. Сябраваў з Сакратам Яновічам.

Як пісьменнік дэбютаваў на старонках „Нівы" 20 кастрычніка 1963 г. апавяданнем „Прыкметы". Праз два гады ў альманаху „Белавежа" была надрукавана кароткая падборка яго празаічных твораў: „Як знайсці хулігана?", „Ой ты, доля мая", „З апавяданняў старога сабакі Тарзана", „Як мы арганізаваліся". Першай значнай кніжкай на творчым шляху стаў „Зборнік сцэнічных твораў", выдадзены ў 1976 г. БГКТ. У альманаху літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Юрка Геніюш выявіў новыя якасці свайго таленту, менавіта ў паэтычнай прозе, у прысвечаным выпускнікам Бельскага беларускага ліцэя „Смыком па сэрцы", у „Запавеце" пісаў: „На добры лёс дзяцей. На тое, каб і мне ў свой час зямелька родная цяжарам не была. На тое, каб калісь сваім прылегчы з вамі". Як беларускі паэт Геніюш перажываў за будучыню роднага слова. Пры жыцці апублікаваў у перакладзе на польскую мову зборнік паэтычнай прозы „Спачатку было толькі Слова..." (Беласток 1981).

Юрка Геніюш нярэдка прыязджаў у Зэльву, дзе з 1956 г. жылі бацькі. Прыязджаў і на пахаванне маці. Пра гэта расказвае ў сваёй кнізе „Імёны свабоды" Уладзімір Арлоў. Пра гэта піша і Міхась Скобла. Ужо на другі дзень пасля пахавання ў хату Геніюшаў заявіліся мясцовыя „актывісты" зператрусам. Пратэсты Юркі Геніюша не спынілі старшыні пасялковага савета і яго памагатых, якіх прыслалі „даследаваць" архіў паэткі і знойдзеную антысавеччыну тэрмінова даставіць спецслужбам. Юрка Геніюш у роспачы патэлефанаваў у Мінск Адаму Мальдзісу, той — Алесю Адамовічу, які меў сувязі ў ЦК КПБ. Урэшце архіў Ларысы Геніюш удалося захаваць.

Як і бацькі, Юрка Геніюш цэлы час адчуваў пільную ўвагу спецслужбаў і загінуў пры нявысветленых абставінах праз два з палова года пасля смерці маці. У 1993 г. у Беластоку выйшаў ягоны паэтычны зборнік „З маёй званіцы", для якога, як і для ўсёй Юркавай творчасці, уласцівае — што пры такім лёсе цалкам зразумела — абвостранa-драматычнае светаўспрыманне. Пасля смерці выйшлі таксама кнігі „Да свету" — у зборніку „Маці і сын" (Беласток 1992) і „Смыком па сэрцы" (Беласток 2013).

Пахаваны Юрка Геніюш у Беластоку.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Раман Маліноўскі зрабіў макет палаца

Раман Маліноўскі — жыхар Нараўкі роўна два гады рабіў вялікі макет колішняга царскага палаца ў Белавежы (гэты здымак зроблены 12 кастрычніка гэтага года ў хаце спадара Рамана). Зараз жыве ён сам. У вялікім пакоі мае сваю майстэрню. Ёсць тут цяпер неабходныя печы-сцяноўкі. У майстэрні цёпла і ўтульна.

І так майстар-аматар завяршыў „пабудову” белавежскага палаца. Макетам зацікаўлены Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Хоча ўзяць яго на выстаўку. Пасля нядоўгага адпачынку Раман Маліноўскі будзе рабіць макет нараўчанскай царквы.

Цяпер Раман Маліноўскі мае больш часу, каб паехаць з вудамі на рыбалку. Гэта яго другое любімае хобі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**





Stowarzyszenie AB-BA zaprasza na: | Аб’яднанне АБ-БА запрашае на:

WYSTAWĘ | ВЫСТАВУ

**Bieżenstwo. Niezwykła historia zwykłych ludzi** | **Бежанства. Незвычайныя гісторыі звычайных людзей**

przygotowaną przez **Białowieski Park Narodowy** we współpracy z portalem **biezenstwo.pl** | падрыхтаваную **Белавежскім нацыянальным паркам** у супрацоўніцтве з парталам **biezenstwo.pl**

Kurator wystawy: Ewa Moroz-Keczyńska | Куратар выставы: Эва Мароз-Кечыньская

PROMOCJĘ KSIĄŻKI | ПРАМОЦЫЮ КНІГІ

**Бѣжанства 1915 года**

**i spotkanie z jej redaktorem Witalisem Łubą** | **і сустрэчу з рэдактарам кнігі Віталём Лубам**

wydawca książki: Rada Programowa Tygodnika Niva | выдавец кнігі: Праграмная рада тыднёвіка Ніва

**22.10.2015 r. (czwartek) godz. 17[00] Szkoła Podstawowa nr 4 w Białymstoku ul. Częstochowska 6a** | **22.10.2015 (чацвер) у 17[00] Пачатковая школа № 4 у Беластоку вул. Чэнстахоўская 6а**

# Дзе верныя чытачы „Нівы”

У салэцтве Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) саракавы нумар беларускага штотыднёвіка „Ніва” ад 4 кастрычніка гэтага года прачытала пятнаццаць жыхароў, у тым ліку, між іншым, Эва Дзеніс, Ніна і Міхал Целушэцкія, Марыя і Кастусь Целушэцкія, Валянціна Рыгаровіч, Марыя і Раман Крышані, Валянціна Ігнацюк, Адрыян Ігнацюк, Лідзія Галубоўская, Ніна Галубоўская, Лідзія Казлоўская, Раіса Баканач і Люба Скепка (усе яны з Новага Ляўкова) ды Валянціна Самойлік і Галіна Бірыцкая з Плянты.

У гэтым нумары зацікавілі іх перш за ўсё допісы з Нараўчанскай гміны. У краме ГСу ў Нараўцы (у цэнтры гэтай найбольшай вёскі ў гміне) чытачы купілі ўсе 10 экземпляраў „Нівы”.

„Ніву” № 41 ад 11 кастрычніка г.г. у Новым Ляўкове прачыталі дзевятнаццаць асоб. У круг чытачоў увайшлі, між іншым, Вольга Максімюк, Вітальд і Вольга Скепкі, Яўгенія і Яўген Смольскія, Ірына Казлоўская, Лідзія і Юрка Трусевічы ды Людміла і Барыс Казлоўскія. Усе асаблівую ўвагу звярнулі на рэпартаж „Бабіна лета ў Міхнаўцы” Міры Лукшы пра паэтэсу Веру Радзіванюк. Адна жыхарка Лешукоў шукала гэты нумар „Нівы” ў солтыса ў Новым Ляўкове і знайшла. Чытачы прасілі аўтара гэтага допісу іменна пра тое, каб нашая родная газета як найхутчэй стала каляровай (яна зараз чорна-шэра-белая).

Сорак першы нумар „Нівы” ў Нараўчанскай гміне раскупілі. У продажы было 11 экземпляраў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. першастаяцель дыяцэзіі = 23 _ 13 _ 8 _ 17 _ 5 _ 3 _;
2. любіць узяць = 18 _ 20 _ 28 _ 29 _;
3. Бэла (1886-1937), венгерскі камуніст = 9 _ 10 _ 12 _;
4. зімовыя хадулі = 21 _ 24 _ 26 _ 27 _;
5. частка плуга, якая адвальвае скібу = 1 _ 16 _ 25 _ 2 _ 4 _;
6. лічэбнік у... галоўнай палескай рацэ = 6 _ 7 _ 14 _ 15 _;
7. Карл Густаў (1875-1961), швейцарскі псіхіятр = 22 _ 19 _ 11 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Медзь, ястраб, дэкада, шыя, зебу, база, дуалізм, вобыск, шыбеніца, дым, масць, мак.

Рашэнне: **Бяда дзеду без бабы — ядуць вошы да скабы**.

# 25.10 — 31.10

**(22.03. — 20.04.)** 24-25.10. цяжка будзе табе забыцца пра крыўды. Энергія Сусвету падтрымае твае планы па змене ладу жыцця. Зрабі свядомы выбар, каб пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў і спыніць зносіны са шкоднымі для цябе людзьмі. Непрыемнасці хутка і бясследна знікнуць. З аўторка па чацвер будзеш моцна загружаны на працы ці дома.

**(21.04. — 21.05.)** 24-25.10. прыліў жарснасці. 24-27.10. маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці не надта цікавым з выгляду, але цудоўным інтэлектуальна. Разлічвай на вялікую зычлівасць, паслушэнства ў дзяцей. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на вельмі важнае для цябе пытанне і зможаш лёгка маніпуляваць іншымі. Здаровы розум дазволіць табе знайсці правільныя рашэнні ва ўсіх сітуацыях і справіцца з многімі праблемамі.

**(22.05. — 22.06.)** 24-27.10. вельмі дбай аб сваё здароўе. Не адштурхоўвай свайго поспеху. Рыхтуйся да новых сустрэч і раманаў — магчыма, па месцы працы. Тым людзям, чый бізнес залежыць ад іх асабістага магнетызму, прывабнасці і камунікатыўнасці, карысна будзе правесці такую «магію»: падагрэй на слабым агні трохі цёмнага мёду і дадай у яго некалькі дробак дробна парэзанага лісця базіліку або тры кроплі эфірнага алею гэтай расліны. Падагрэй гэта на агні. Прымаючы ванну, дадавай у ваду адну лыжку атрыманага зелля.

**(23.06. — 23.07.)** 24-27.10. дай шанц выйсці шчасцю насупраць і зрабі штосьці, аб чым ты здаўна марыў. Ідэальны час на падарожжы. 27.10. прачнецца ў табе жарснасць. Асцерагайся, аднак, зайздрасці, бо горка пашкадуеш. У гэты тыдзень ідзі на хірургічныя аперацыі.

**(24.07. — 23.08.)** 24-25.10. твая дыпламатычнасць прынясе поспех. 28-31.10. твае інвестыцыі будуць трапныя. На тваёй дарозе стане хтосьці, з кім будзе вам па дарозе. Спадзявайся каштоўных сустрэч, цікавых размоў, разумных парад.

**(24.08. — 23.09.)** Пераломны час у пачуццёвым жыцці; пазнаёмішся з кімсьці, хто ўліе ў тваё жыццё новае святло. Не бяры пазык у банку. 24-27.10. будзеш схільны да рызыкі; не эксперыментуй на працы.

**(24.09. — 23.10.)** 23-27.10. разлічвай на спрыяльныя выпадкі і шчасце; дасі рады ворагам і паб’еш канкурэнцыю. Пры лячэнні пацікаўся натуратэрапіяй, якая падтрымае канвенцыянальнае лячэнне і адразу адчуеш сябе лепш.

**(24.10. — 22.11.)** 23-25.10. вернасць і жарснасць ды дастатак. Вакол цябе будзе круціцца шмат людзей любячых забаву, якія не дадуць табе сумаваць. Але 23-27.10. не разлічвай на дапамогу калег. Хтось з твайго атачэння хоча цябе сасватаць, з добрага сэрца, але на дай сябе ўблытаць, бо можаш трапіць на асобу, якая можа многа намяшаць у тваім жыцці. У меню ўвядзі больш гароднiны і садавіны; гэта падзейнічае выдатна!

**(23.11. — 22.12.)** 23-27.10. без боязі можаш пайсці новай дарогай, выйграеш у спрэчцы. Будзеш спрытны, аналітычны і дакладны. Але 27.10. можа не хапіць табе энергіі і баявітасці; можаш расчаравацца. Нейкая старэйшая асоба з твайго атачэння дапаможа табе ў вельмі складанай справе; паслухай яе парад.

**(23.12. — 20.01.)** Пералом у бачанні каханай асобы можа наступіць 27.10.; слухай тады інтуіцыі, а не розуму, добра на гэтым выйдзеш. 23-27.10. можа табе ў вока і сэрца заляцець асоба, якую ты лічыў толькі знаёмай; сувязь можа аказацца моцнай і інспіруючай. У гэты час не падпісвай важных дакументаў. Прыглядзься сваёй шчытавідцы (тарчыцы), мабыць трэба будзе яе хутка абследаваць.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш мець падтрымку людзей, па якіх гэтага не спадзяешся. Добры час на перасяленне, рамонт, заснаванне сям’і. 23-27.10. будзеш мець вялікае шчасце да грошай! Паявіцца нагода фантастычнай інвестыцыі ці выйгрышу! Займайся перш за ўсё тым, чым трэба, каб паспець. Аднаві кантакты з даўно нябачанай сям’ёй — неўзабаве яны табе спатрэбяцца.

**(20.02. — 21.03.)** Будзь вельмі асцярожным у фінансах, не павер у магчымасць «залатых гор», не кідайся на глыбокую ваду, бо можа не ўдацца і страты могуць быць немалыя. Сімпатыя Льва шчырая, і разам можаце шмат што зрабіць. 28-31.10. знакамітыя нагоды пачаць вучобу, курсы, падацца ў важнае падарожжа.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.



# У палескай глыбінцы (19)

Штосьці такое магло мне прысніцца, таму не ведаю, што думаць пра знаёмства з Юры Лукашэвічам. Справа ў тым, што ўся палеская лагістыка знаходзілася ў яго мабілцы. Ён ведаў патрэбных мне людзей, ведаў усё пра нелегальнае здабыванне бурштыну і, як адзіны дубровіцкі паляшук, зведаў *паляцкае Палессе*. Так Юры ахрысціў наш падляшскі кут.

Я пакінула жадзенскую кавярню ў пачуцці маральнай раздвоенасці. У канцы сяла, як нідзе, адчуваўся канец свету. У плоскім краявідзе, быццам на пустыні, панавалі адценні пастэльных колераў. Спачатку ідэя падарожнічаць аўтаспынам здавалася грэшнай ненармальнасцю. Цягам трыццаці хвілін мяне абмінулі дзве фурманкі. І яшчэ дзве гаротніцы, у архаічных апранахах. У сваіх доўгіх халатах, пастэльных хустках і нямодных плоскіх ботах, напаміналі сектантаў, абыякавых да свету моды і бізнесавай прыгоды. Яны адмаршыравалі побач са зрокам убітым у асфальт, без слова прывітання... Я глядзела ў іх след, які заціраўся ў пастэльным краявідзе. Усё тут магло быць соннай мрояй, фата-марганай.

Таму машына, на якой з касмічнай хуткасцю прамчаў па дзіравай шашы Юры, таксама здалася праявай афрыканскага *сафары*. Аўтамабіль спыніўся пяцьдзясят метраў далей, аднак назад падкаціў у мой бок. Шафёр адкрыў акно і выгукнуў на прывітанне:

— Выбачайце, не прыкмеціў.

* * *

Толькі пасля вяртання ў Польшчу, калі я адслухала запіс нашых размоў, са здзіўленнем для сябе самой я адкрыла, што ўвесь час Юры выказваецца на рускай мове. Адкуль такое здзіўленне? Увесь час у мне было адчуванне, што размаўляем на адной мове. Справа ў тым, што Юры ў паўслове разумеў маю падляшскую мову. У сваю чаргу я разумела яго рускую мову. Не ведаю, ці раней, з дапамогай падляшска-рускіх дыялогаў прыходзілася мне кранаць эмацыйныя палескія тэмы. Юры ўзрушыўся, калі пачуў, што падарожнічаю з-за палескіх песень.

— Я — свядомы паляшук, — заявіў ён, — такі тузёмец, абарыген. Я лічу, што мы тут асобны славянскі народ. З асобнай ідэяй і лёсам. Вось зараз, калі ўспыхнула вайна, нас пакінулі саміх сабе, каб самі пра сябе клапаціліся, выжывалі. Для нас на першым месцы лес і балоты. Гэта нашае пачуццё бяспечнасці. Ну і зараз бурштын, — апошнюю вестку Юры зафарбаваў шальмоўскай усмешкай. (Дзякуючы яго дапамозе наведаю палеткі, дзе ў атмасферы амерыканскіх вестэрнаў мясцовыя палешукі капаюць і кантрабандай перакідаюць за межы краіны бурштын.)

Юры нарадзіўся і дарастаў у Перабродах. Сёння жыве адначасова ў Сарнах і ў Століне ў Беларусі, у яго падвойнае грамадзянства. Гэта дапамагае ў дзелавых кантактах.

— Падумаў, ці не звярнуцца яшчэ за Картай паляка, — прызнаўся ён, — бо ж бацькі нарадзіліся пры Польшчы. Вядома, гэта для дзелавых кантактаў.

Ад апошняй сенсацыі ў мяне відавочна выцягнуўся тварык, таму Юры адразу навеў тактоўную карэктуру:

— Ну, так падумаў уголас, — заявіў, быццам прасіў прабачэння. — Мне гэта непатрэбна, штосьць стрэліла ў галаву...

Юры быў першым чалавекам на Палессі, які ведаў Падляшша. Пятнаццаць гадоў таму супрацоўнічаў з бельскім прадпрыемствам «Фармбэст». Праз нейкі час жыў у Бельску, дзе пасябраваў з такім добрым хлопцам Толікам. Праўда, Толік гаварыў ужо па-польску, хоць заяўляў «я не паляк, я — свой». Аднойчы, разам, наведалі яго бабулю ў вёсцы:

— То мы з бабай *баялі* без перакладчыка, — успамінае з усмешкай Юры, — усё там было як у нас, у Перабродах. Тыя самыя словы, тыя ж жарты, тыя ж прысмакі. А найбольш спадабаўся яму айцец Гаўрыіл з Адрынок. У ягоным скіце, сярод лясоў і балота, адчуваў сябе як дома. Нават айцец Гаўрыіл гаварыў на мове як у іх Перабродах.

— Бо я *нарадзіўсо* ў канцы сяла, які ў нас называюць *Адрынкі*, — тут Юры адазваўся па-перабродску, — таму такое ў мяне адчуванне сваяцтва .

Папраўдзе я ўжо не мусіла падбіваць сабе цаны ў гэтай тусоўцы. Тут хутчэй ішло пра аўтапрэзентацыю. Калі я сказала, што родам ад падляшскіх Адрынок, Юры яшчэ больш узрушыўся.

— Я ж бачу, — заявіў ёй з усмешкай, — што мы адзін палескі народ...

* * *

І гэта была, так сказаць, прэлюдыя да маёй перабродскай прыгоды, дзе свет павярнуў сорак гадоў назад, у часы дзяцінства.





Тым часам мы імчаліся па вострай брукахванцы, далей пясчанай дарогай праз лес. Юры падабраў у сваю машыну дзве жанчыны ў архаічных строях, якія абмінулі мяне ў канцы Жадзеня. Яны таксама дабіраліся ў Перабродy. За ўсю дарогу не адазваліся ні словам.

— Калі да нас прыязджаюць людзі са свету, — пачаў Юры, — яны пакідаюць машыны ў горадзе, там ужо падбіраюць іх мясцовыя і вязуць куды трэба. На выслужаных маршрутках, усюдыходных, сваіх старых „Запарожцах". Аднойчы наведалі іх пратэстанты са ЗША. Ехалі пясчанай дарогай, побач пустой бруккаванкі і не маглі зразумець навошта тут збудавалі такую дарогу, па якой ніхто не хоча ездзіць. Каб было смяшней, бруквaнку збудавалі адносна нядаўна, напрыканцы XX стагоддзя. Калі суха, па ёй можна перамяшчацца з хуткасцю пятнаццаць кіламетраў у гадзіну. Раней у Перабродьі ўвогуле не было сухой дарогі. У час веснавога разводдзя сяло напамінала востраў. Кожны дзень прылятаў верталёт, каб забраць калгаснікаў на працу ў Дубровіцу і моладзь у школы. Зараз, калі паветраны шлях перастаў дзейнічаць, найбольш надзейным сродкам транспарту з'яўляецца фурманка...

На доказ ягоных слоў на дарозе з'явілася фурманка поўная народу. Тут былі старыя, маладыя, дзеці. Усе ў старых, аблезлых, запэцканых апранахах, як і належыць чорнарабочым. Юры махнуў рукой гаспадару, каб спыніўся. Усё дзеля маёй фотасесіі. Гаспадар без аглядкі спыніў каня, ды яшчэ на канец падзякаваў мне «за фотку».

Нявіннае здарэнне абліло хваляй цёплых успамінаў. Здавалася на возе, разам з сям'ёй у выслужаных будзённых апранахах сяджу я сама ў свае сем-восем гадоў. Усё тут было як калісь у нас, на Падляшшы.

— Гэтая дарога мае адзін плюс, — цягнуў Юры, развяселены маёй звышцікаўнасцю да яго сяла і тутэйшых карцінак, — *менты* да нас не прыязджаюць. Баяцца ехаць на сваіх элегантных, новых машынах...

Апошняя інфармацыя, ахінутая духам анархіі, таксама падалася мне дзіўна знаёмай. Праўда, у маю падляшскую вёску міліцыя баялася прыязджаць не з-за фатальных дарог, а і з-за баявітасці кавалераў, якім не падабалася ўлада звонку.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960